

# Беларус

*Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!*
*Францішак Багушэвіч (1840-1900)*

№ 372 Жнівень 1990
Год выд. XXXIX

BIELARUS / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $ 2.00

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ АБ СУВЭРЭННАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

### Дакумэнт «на 95 працэнтаў заснаваны на ідэях БНФ»

27 ліпеня Вярхоўны Савет Беларусі прыняў аднагалосна (але ў залі паседжаньняў было толькі 230 дэпутатаў з 350) дэклярацыю «Аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР». Дзень 27 ліпеня абвешчаны «Днём незалежнасьці», які будзе штагоду адзначацца як «агульнанароднае дзяржаўнае сьвята Беларусі». Тэкст дэклярацыі апубліканы ў рэспубліканскім друку («Зьвязда», 29. VII, «ЛіМ», 3. VIII).

Дэклярацыя аб сувэрэнітэце складаецца з 12 кароткіх артыкулаў. Асноўны зьмест дэклярацыі газэта «Известия» (29. VII) пераказала гэткімі словамі:

«Ніводная палітычная партыя ці грамадзкая арганізацыя, а таксама пасобныя людзі ня могуць выступаць ад імя ўсяго народу Беларускай ССР. Гэтае права належыць выключна Вярхоўнаму Савету рэспублікі. Беларуская ССР устанаўляе верхавенства Канстытуцыі і законаў рэспублікі на сваёй тэрыторыі. Зямля, ейныя нетры, іншыя прыродныя рэсурсы на тэрыторыі БССР — гэта ўласнасьць беларускага народу.

«Пастаноўлена, што рэспубліка мае права на ўласныя ўзброеныя сілы, нутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадзкай бясьпекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету БССР. У дэклярацыі абвешчана, што Беларусь ставіць за мэту зрабіць сваю тэрыторыю бязьядзернай зонай, а рэспубліку — нэўтральнай дзяржавай».

Паўстае, зразумела, пытаньне, як трэба разумець гэты радыкальны крок да сувэрэннасьці ў рэспубліцы, кіраўніцтва якое ведамае як найбольш кансэрватыўнае ў СССР. Вось-жа трэба перш-наперш адзначыць, што пад канец абмяркоўваньня тэксту дэклярацыі, калі пытаньне дайшло да гэтак званага «Саюзнага дагавору», дэпутаты БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком пакінулі залю паседжаньняў, заявіўшы, што Саюзны дагавор — гэта «пятля на шыі беларускага народу» і што БНФ ня хоча мець нічога супольнага з гэтым. У артыкуле 11-м дэклярацыі тым ня менш сказана: «Беларуская ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавору аб саюзе сувэрэнных сацыялістычных дзяржаў».

Лідэр БНФ З. Пазьняк сказаў у інтэрв'ю газэце «ЛіМ» (10. VIII), што «на сёньняшні дзень Дэклярацыя — пустая паперка, ня больш». Праўда, Пазьняк бачыць патэнцыяльныя магчымасьці дэклярацыі, бо тут-жа зазначыў: «Але ад нашага грамадзтва залежыць, якой яна стане потым. Дэклярацыя прынятая, і гэта факт. Цяпер беларускі народ мае магчымасьць змагацца за рэальнае ажыцьцяўленьне сувэрэнітэту рэспублікі».

**У тым-жа самым інтэрв'ю Пазьняк адзначыў вялікі ўплыў Беларускага Народнага Фронту на зьмест дэклярацыі, якую прыняў ВС БССР. Пазьняк** сказаў: «У той-жа час прыняты дакумэнт аб дзяржаўным сувэрэнітэце, дзякуючы працы нашых дэпутатаў, на 95 працэнтаў заснаваны на ідэях БНФ, выкладзеных яшчэ паўтара года назад».

Ня выказаў энтузіязму ў сувязі з прыняцьцём дэклярацыі і Васіль Быкаў, народны дэпутат СССР. У інтэрв'ю газэце «ЛіМ» (3. VIII) народны пісьменьнік Беларусі сказаў:

«Я адношуся да гэтай дэклярацыі спакойна. Прыняцьце яе (або няпрыняцьце), па сутнасьці, нічога ня можа зьмяніць у жыцьці рэспублікі, так што значэньне дэклярацыі чыста тэарэтычнае. Добра, канешне, што наш парлямант намогся на такі крок, напэўна, архірадыкальны ў ягоных вачах».

Быкаў сказаў, што ў залі Вярхоўнага Савету, калі прыймалася дэклярацыя, «панаваў амаль хаўтурны настрой, бо ўсё гэта рабілася супраць волі большасьці, пры крайняй раздражнёнасьці некаторых дэпутатаў з партгрупы. Левыя дэпутаты (г. зн. дэпутаты БНФ і ягоныя прыхільнікі — Я. З.) самааддана змагаліся за кожнае слова пры відавочнай пасыўнасьці правых, якія, аднак, адчувалі сваю сілу ў іншым — у галасавальнай працэдуры. Яна ўсё і вырашала».

Як і Зянон Пазьняк, Васіль Быкаў ня бачыць тымчасам узаемасувязі паміж словамі дэклярацыі і запраўдным станам рэчаў. «Рэальнага напаўненьня гэтай звонкагалосай дэклярацыі няма ніякага, — сказаў Быкаў газэце «ЛіМ», — і цяжка меркаваць, каб з такім выразным, мякка кажучы, кансэрватызмам КПБ і Саветаў яго магчыма было дасягнуць у бліжэйшым будучым».

**Я. З.**

## МІЖНАРОДНАЕ ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСІСТАЎ

Як паведаміла газэта «Літаратура і Мастацтва» (13.VII), у Менску створаны аргкамітэт Міжнароднага Згуртаваньня Беларусістаў (МЗБ). У яго ўвайшлі: Адам Мальдзіс (старшыня, БССР), Генадзь Цыхун (сакратар, БССР), намесьнікі старшыні — Томас Бэрд (ЗША), Джэймс Дынглі (Вялікабрытанія), Карль Гутшміт (Усх. Нямеччына), Міхал Кандрацюк (Польшча), Аляксей Каўка (РСФСР) і 12 асобаў сяброў камітэту, сярод якіх і старшыня БІНіМ др. Вітаўт Кіпель (абраны завочна).

**Аргкамітэт прыняў пастанову правесьці ў Менску ў 1991 годзе ўстаноўчы зьезд МЗБ. Беларусісты сьвету заклікаюцца ствараць нацыянальныя й рэгіянальныя камітэты.**

***Падпішэцеся на газэту «Беларус» для суродзічаў на Бацькаўшчыне.***

## РАЗЬМЕРКАВАНЬНЕ СІЛАЎ У ВС БССР

У інтэрв'ю газэце «ЛіМ» (10. VIII) лідэр БНФ Зянон Пазьняк гэтак схарактарызаваў палітычную структуру Вярхоўнага Савету рэспублікі:

«У ВС БССР каля 86 працэнтаў камуністаў, прычым большасьць зь іх — апаратная і адміністрацыйна-гаспадарчая намэнклятура. ...

«Дэмакратычныя дэпутаты па ініцыятыве групы БНФ аб'ядналіся ў Дэпутацкі клюб, які мае свой статут, прыняты 100 дэпутатамі. ...

«Дэпутацкая група (фракцыя) БНФ з 27 чалавек утворана яшчэ перад сэсіяй, але заявіла пра сваё стварэньне і рэгістрацыю толькі праз два месяцы, калі больш-менш высьпелі ўмовы. Да гэтага часу ўжо існавалі групы аграрнікаў і вэтэранаў ('Саюз'). Нядаўна абвясьцілі пра сваю групу (160 членаў) і камуністы. Вылучаецца таксама група 'прамыславікоў' (кіраўнікоў прадпрыемстваў і інш.).

«Найбольш радыкальная аб'яднаньні — гэта БНФ і Дэмакратычны клюб (парлямэнцкая фракцыя БНФ уваходзіць у Дэмклюб). ... Найбольш палітычна рэакцыйная катэгорыя дэпутатаў — аграрнікі, пераважна кіраўнікі гаспадарак і сельгасведамстваў».

**Алесь Барскі**

* * *

Не баюся ні ўсходаў, ні захадаў,
Сувэрэннасьць — вось маё гобі.
Сьвет разьдзелены, сьвет не
падзелены
Да спадобы мне, ой да спадобы.
Хай сыстэмы трашчаць і хай
крышацца,
Рассыпаюцца ў попел гісторыі,
Ён у глебу навозам упішацца,
Заквітнее айчыннай глёрыяй.
А з Масквы і з Крамля «хадой
ўдумнаю»
Хай ніхто і нішто не праменіцца,
Віхры уздымаюцца шумныя
І крыніцы ў Радзіме струменяцца.
Хай браты вакол добрыя, роўныя,
Не старэйшыя, не разумнейшыя,
Дружбы кроўныя, шчырасьці кроўныя
Будуць праўдай для нас
найвышэйшаю.
Ой, ня лёгка ісьці да свабоды
У сягоньняшняй нашай адлізе,
Сонца плавіць татальныя лёды,
Ці нас не пакіне на крызе?
Дык ня праўда, што я не баюся
Ні ўсходаў ні захадаў сёньня,
Дрыжу я за лёс Беларусі,
Хоць надзею трымаю ў далонях.

Гарогейт, Англія
25. VII. 90

ПРАЕКТ ДЭКЛЯРАЦЫІ
## АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ
ПРАПАНАВАНЫ Ў ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ БССР
## БЕЛАРУСКІМ НАРОДНЫМ ФРОНТАМ

Сувэрэннасьць Беларускай дзяржавы мае выток у незалежнасьці Полацкага Княства і Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Пасьля анэксіі Беларусі ў канцы XVIII стагодзьдзя ў склад Расійскай імпэрыі імкненьне беларускага народу да незалежнасьці выявілася ў шэрагу крывавых паўстаньняў 1794, 1830-31, 1863-64, 1905 гадоў, асэнсаваньнем неабходнасьці аднаўленьня незалежнай дзяржаўнасьці. Гэты працэс закончыўся ў 1918 годзе ўтварэньнем на аснове шырокага, свабоднага і дэмакратычнага народнага прадстаўніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) і абвяшчэньнем яе незалежнасьці, што засьветчана Трэцяй Устаўной граматай БНР, паводле якой уся ўлада на Беларусі перадавалася Усебеларускаму Устаноўчаму Сойму. Гэтым актам, прызнаным шэрагам эўрапейскіх дзяржаваў, было засьветчана аднаўленьне беларускай дзяржаўнасьці.

Аднак першыя крокі Беларусі да адраджэньня незалежнасьці былі абарваны процідзеяньнем іншых дзяржаваў і новай імпэрскай сілы — Расейскай камуністычнай партыі зь яе ідэяй сусьветнай рэвалюцыі.

У сьнежні 1918 года тэрыторыю Беларусі бяз згоды беларускага народу і Ураду БНР занялі адзьдзелы Чырвонай Арміі РСФСР. На зямлі Беларусі была ўстаноўлена бальшавіцкая ўлада і незаконным, недэмакратычным шляхам створаны залежны ад яе ўрад, які 1 студзеня 1919 году па рашэньні ЦК РКП(б) абвясьціў аб утварэньні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, якая, аднак, незалежна, ад жаданьня бальшавікоў аказалася переаменіцай дзяржаўных традыцыяў Беларусі. Без абвяшчэньня незалежнасьці БНР ня была-б утворана і БССР.

Праз два месяцы гэтая рэспубліка была ліквідавана бальшавікамі і створана штучнае дзяржаўнае ўтварэньне — Літоўска-Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Неўзабаве яна была таксама скасавана і на тэрыторыі з шасьці паветаў цэнтральнай Беларусі ў ліпені 1920 году зноў была ўтворана БССР.

Але і гэтая марыянэткавая дзяржаўнасьць была прынесена ў ахвяру бальшавізму. Коштам Беларусі бальшавіцкая Расея купіла сабе мір з Польшчай, падзяліўшы зь ёю ў Рызе ў 1921 годзе этнічныя беларускія землі і разьядна́ўшы адзінакроўны народ; яна адвольна перакройвала карты і перайначвала межы БССР, выключыўшы зь яе складу частку адвечных беларускіх тэрыторыяў на ўсходзе — цяперашнія землі Магілёўскай, Гомельскай, Смаленскай, Бран-

*(Працяг на 4-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 20 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# АБ ПАЛІТЫЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ

***Ад Рэдакцыі:** Ніжэй зьмяшчаем заяву, прынятую канфэрэнцыяй Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», што адбылася ў Менску 30. VI-I. VII. 1990 г.*

За год, што мінуў пасьля Ўстаноўчага зьезду БНФ «Адраджэньне», эканамічная, палітычная і грамадзкая сытуацыя ў Рэспубліцы пагоршылася. З паліц магазынаў зьнікаюць апошнія спажывецкія тавары, інфляцыя ператварыла грошы ў паперу. Апарат камуністычнай партыі ў Беларусі бяссэнсоўнай упартасьцю заціскае гайкі, зьдзекуецца з плюралізму, галоснасьці і дэмакратыі. За год ня быў надрукаваны ніводзін афіцыйны дакумэнт БНФ.

Але затое быў прыняты антыдэмакратычны закон аб выбарах, што дазволіў партапарату ў чарговы раз фактычна захапіць уладу, паколькі склад абранага Вяхоўнага Савету БССР і мясцовых Саветаў не адлюстроўвае рэальных суданосін палітычных сілаў і памкненьняў беларускага народу.

Да сёньняшняга дня ня робіцца нічога рэальнага для выратаваньня беларускага народу ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Лідэры партыйнай мафіі хутка ператвараюцца ў лідэраў новай савецкай буржуазіі.

Улады старанна ўмацоўваюць рэпрэсійны апарат — пракуратуру, суды, міліцыю. Захоўваюць свае незаконныя прывілеі. Мацуюць кругавую паруку — старанна выгароджваюць і апякаюць сваіх прадстаўнікоў, якія даўно страцілі народны давер.

Такія паводзіны сьветчаць аб канчатковай страце партыйнымі ўладамі здаровага сэнсу. Гэтым тлумачыцца зьяўленьне ультыматуму да свабоднай Літвы. Гэтым тлумачыцца пасьпешлівая рэалізацыя «незалежнасьці» пасьля атрыманьня загаду з Масквы. Сьпісваючы сваю «дэклярацыю» з праграмных дакумэнтаў БНФ, старшыня М. Дземяньцей і ягоныя памагатыя забыліся на тое, што незалежнасьць несумяшчальная з таталітарызмам.

Але спыніць рух гісторыі немагчыма. Крах таталітарнай партыйна-бюракратычнай сыстэмы непазьбежны. Супрацiўленьне яе апалягетаў, стаўленьнікаў толькі пагаршае становішча беларускага народу, нясе яму новыя беды і пагрозу нацыянальнай катастрофы.

Усё гэта вымагае новых высілкаў з боку дэмакратычных сілаў Беларусі. Канфэрэнцыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» заклікае ўсіх сумленных, сьвядомых і актыўных людзей аб'яднаць намаганьні ў барацьбе за выратаваньне беларускага народу.

Мы заклікаем прадстаўнікоў БНФ у Саветах, усіх дэмакратаў, якія ўдзельнічалі ў выбарах на платформе Дэмакратычнага блёку, аб'яднацца ў апазыцыйныя фракцыі і пазбавіць прадстаўнікоў намэнклятуры бачнасьці народнай падтрымкі. Людзі, якія захапілі ўладу, павіны несьці адказнасьць за сваю палітыку.

Мы патрабуем стварэньня ўмоваў для нармальнай дзейнасьці ўсіх грамадзкіх аб'яднаньняў і партыяў.

Мы вітаем разгортваньне незалежнага рабочага руху, стварэньне за прыкладам Гомля і Магілева гарадзкіх і абласных страйкавых камітэтаў і абяцаем ім падтрымку ў барацьбе за правы рабочых.

Мы заклікаем усіх прыхільнікаў БНФ з новаю сілаю разгарнуць «мітынговую дэмакратыю». Мы павінны аказаць магутную падтрымку нашым прадстаўнікам у Саветах усіх узроўняў. Наша мэта — роспуск антыдэмакратычных Саветаў і правядзеньне новых выбараў на падставе дэмакратычнага закону.

Мы заклікаем да прыняцьця «Дэклярацыі аб незалежнасьці Беларусі», распрацаванай БНФ «Адраджэньне». Мы заклікаем да стварэньня грамадзянскіх камітэтаў — асноўнага сродку стварэньня новай грамадзянскай супольнасьці.

Наш народ павінен асэнсаваць усю небясьпечнасьць становішча, калі на развал эканомікі, крызіс і беспарадак накладаецца адсутнасьць палітычных свабодаў і галоснасьці. Змагацца за народную думку, за народную падтрымку, гуртаваць народ у змаганьні — пачэсны абавязак сяброў БНФ. У той дзень, калі пад сьцягамі БНФ зьбярэцца большасьць нашага народу, абрынецца ўся прагнілая сыстэма, і мы выйдзем на шлях да вольнага і шчасьлівага жыцьця.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

## ЛЕЧАЦЦА АД ЧАРНОБЫЛЯ стараньнямі БНФ

На пачатку ліпеня з ГДР вярнулася першая група дзяцей, якія жывуць у забруджаных радыяцыяй раёнах Беларусі. Месячную паездку іх на аздараўленьне ў Нямеччыну арганізаваў камітэт БНФ "Дзеці Чарнобыля", на чале якога стаіць энэргічны й самаахвярны дэпутат Вярхоўнага Савету БССР Генадзь Грушавы. 500 дзяцей з Хойніцкага, Кармянскага, Будакашалёўскага ды іншых раёнаў былі грунтоўна абсьледаваныя ў радыяцыйным цэнтры Бэрліну. Для іх арганізаваліся цікавыя экскурсіі па гістарычных мясьцінах Нямеччыны, выздараўленчыя мерапрыемствы. Выдаткі ўзялі на сябе нямецкія грамадзкія арганізацыі і рэспубліканскае міністэрства асьветы.

У ГДР паехала яшчэ адна група беларускіх дзяцей. Паездка трэцяй плянавалася на жнівень, а ў верасьні камітэт "Дзеці Чарнобыля" плянуе правесьці аздараўленьне мацярок зь дзецьмі . Усяго-ж ад пачатку 1990 году пры дапамозе камітэту БНФ папраівілі сваё здароўе за мяжой каля пяцёх тысячаў чалавек.

*Прывітальныя тэлеграмы*

**Яго Міласьці**
**Спадару Мікалаю І. Дземяньцею**
**Старшыні Вярхоўнага Савету**
**Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі**

Галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня выказвае Вярхоўнаму Савету БССР шчырыя віншаваньні з нагоды прыняцьця Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай ССР і жадае плёну ў далейшай дзейнасьці дзеля аднаўленьня незалежнай Беларускай Дзяржавы, абвешчанай Актам 25 сакавіка 1918 году — Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Жыве Беларусь!

Нью-Ёрк, ЗША, 28 ліпеня 1990 г.

**Антон Шукелойць,**

**Яго Дастойнасьці Прэзыдэнту**
**Беларускага Вярхоўнага Савету**
**Менск, СССР**

**30 ліпеня 1990 г.**

Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку вітае Вас і ўвесь Беларускі Народ з паўзятым становішчам, якое вядзе да адраджэньня роднае мовы, культуры, нацыянальнае годнасьці й беларускае дзяржаўнасьці. Мы жадаем Вам і ўсяму Беларускаму Народу посьпехаў у асягненьні сувэрэнітэту і мірнага сужыцьця з вольнымі народамі сьвету. Мы, беларускія Амэрыканцы, будзем старацца ўсімі сіламі Вам дапамагчы. Спары Божа.

**Канстанцін Мерляк, Старшыня**
Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне
104-29 Atlantic Avenue Richmond Hill, N. Y. 11418
U. S. A.

## МАЛЕБЕН ЗА БЕЛАРУСЬ

У нядзелю 29 ліпеня г. г. айцец Пратаерэй Васіль Андрэюк адслужыў у царкве Божае Маці Жыровіцкае ў Гайленд-Парку, Н.-Дж., малебен падзякі з нагоды прагалошаньня сувэрэнітэту Беларусі. Пасьля багаслужбы ён таксама сказаў хоць і кароткую, але зьмястоўную пропаведзь на тэму дня. У часе малебну ў Царкву былі ўнесеныя нацыянальныя і вэтэранскі сьцягі. У шмат каго з малельнікаў былі на вачах сьлёзы, але гэта ўжо ня былі сьлёзы роспачы, але падзякі і просьбы аб далейшай апецы над пачынаючай адраджацца Бацькаўшчынай і ейнымі сынамі і дочкамі.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**В. С.**

## САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ БЕЛАРУСІ

У Менску паўстаў арганізацыйны камітэт Сацыял-дэмакратычнай партыі Беларусі (СДПБ). У «Дэклярацыі прынцыпаў» СДПБ сказана: «Галоўным заданьнем сёньняшняга дня сацыял-дэмакраты Беларусі лічаць перадоленьне манаполю палітычнай і эканамічнай улады, што знаходзіцца ў руках партыйна дзяржаўнага апарату». Сацыял-дэмакраты кажуць, што яны гатовыя «выступаць у саюзе з рэфармісцкай часткай кампартыі Беларусі і камсамолу ды іншымі дэмакратычнымі сіламі рэспублікі». Сацыял-дэмакраты вітаюць намаганьні БНФ, як арганізацыі прыхільнікаў палітычнага шляху беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Праграма СДПБ прадбачыць паступовы пераход ад цяперашняга, як ён названы, «ілюзорнага, дагматычнага, казарменнага дзяржаўна-бюракратычнага сацыялізму» да плюралістычнага ладу эўрапейскага тыпу: парлямэнтарнай сыстэмы, рэгуляванай эканомікі вольнага рынку і сацыяльнай дэмакратыі.

У галіне культуры сацыял-дэмакраты выказваюцца за інтэрнацыяналізацыю. «Для Беларусі, — кажуць яны, — сталася традыцыйнай свабодная канкурэнцыя колькіх культураў — беларускай, расейскай, літоўскай, польскай». А дзеля гэтага, «навязваньне беларускай монакультуры можа спрычыніць цэсу беларускага нацыянальнага адраджэньня, выклікаць эфэкт адрыву з боку самых Беларусаў. Тым ня менш, — сказана далей у праекце праграмы, — у абставінах, якія склаліся, мэтазгодна пераважнае разьвіцьцё беларускай культуры як цымэнтуючай народ, што найбольш пацярпеў ад імпэрскага псэўдаінтэрнацыяналізму, ад практыкі 'зьліцьця народаў'». Сацыял-дэмакратычная партыя Беларусі прапануе ствараць умовы для «свабоднай канкурэнцыі нацыянальных культураў» і разам з тым «цярпліва культываваць беларускую культуру і ейную канкурэнтаздольнасьць зь вялікай расейскай культурай».

## УКРАІНЦЫ СЬВЯТКУЮЦЬ СУВЭРЭННАСЬЦЬ

Абвешчаньне Ўкраіны як сувэрэннай дзяржавы, што адбылося ў Кіеве 16 ліпеня, сьвяткавала ўкраінская грамадзтва Таронта й ваколіцаў перад Антарыйскім парлямантам 24 ліпеня. Увечары перад будынкам сабралася каля 2 тысяч людзей. Запрошанымі ад Згуртаваньня Беларусаў Канады прыйшлі нашы суродзічы з нацыянальным сьцягам, і сп. Мікола Ганько, старшыня ЗБК, выступаў зь віншаваньнем.

Урачыстасьць пачалася малебенам з удзелам шасьцёх духоўнікаў. Украінцаў з нагоды гэтай важнай гістарычнай падзеі віншавалі паслы ад правінцыяльнага парлямэнту й ад гораду Таронта. Характэрна, што ня было ніякага прывітаньня ад фэдэральнага ўраду ў Атаве, які, відаць, глядзіць, каб не ўкваліць Маскву, якой прадаюць пшаніцу. Гэта той самы ўрад, які кагадзе вітаў, шырака адчыніў дзьверы ды даў 5 міліёнаў даляраў паўдзённа-афрыканскаму пракамуністычнаму тэрарысту Мандэлю.

У сваёй кароткай віншавальнай прамове старшыня ЗБК зьвярнуў увагу на тое, што канадзкі народ, а асабліва ўсе ягоныя ўрады павінны ўжо навязваць кантакт з Украінай і зь іншымі рэспублікамі, якія вызваляюцца спад маскоўскага ярма. Гэта ў будучыні, на руінах імпэрыі, што распадаецца, забясьпечыць доступ да новапаўсталых дзяржаваў, у тым ліку й рынак для камэрцыі. Прысутныя ўзнагародзілі прадстаўніка Беларусаў Канады апладысмэнтамі.

**К.**

*Карэспандэнцыя з Парыжа*

## ЯШЧЭ ПРА ЧАРНОБЫЛЬ

Чатыры гады пасьля жудаснае катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі францускія газэты, апрача камуністычных, ізноў шырака пішуць пра вельмі цяжкія ўмовы лячэньня паражаных радыяцыяй жыхароў, асабліва дзяцей, арганізм якіх вельмі чульлівы на радыяцыю. У парыжскім часапісе «Paris-Match» падавалі фатаграфіі дзяцей зь Беларусі бяз ног, бяз рук, без вачэй і г. д.

Пасьля выступленьня аднаго польскага прафэсара, які жаліўся на выбух у Чарнобылі, я папрасіў слова і выступіў з паведамленьнем пра непараўнальна большае зьнішчэньне ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі і Ўкраіне, пра бедных 800.000 хворых беларускіх дзяцей, пра абыякавасьць цэнтральных уладаў Савецкага Саюзу, якія нічым ня цікавяцца і нічым не памагаюць. На наша зьдзіўленьне, на залі не было амаль ніякае рэакцыі. А гэта таму, што Французы баяцца ўздымаць праблему Чарнобыля, паколькі ў Францыі працуюць 56 атамных рэактараў, якія забясьпечваюць 70% усяе электрычнасьці краю. А прадстаўнікі з Усходняе Эўропы таксама маўчалі, бо баяліся, відаць, што Беларусы хочуць перахапіць дапамогу ад Французаў, на якую яны спадзяваліся. Толькі адна жанчына з Францыі і адзін францускі доктар, зь якім мы абедалі, дзякавалі нам за тое, што было сказана пра Беларусь. Гэты доктар напісаў мне цікавы ліст, у якім ёсьць вельмі важнае выказваньне: «Ня трацьце надзеі, рабеце ўсё, што можаце, каб ратаваць у першую чаргу вашых беларускіх дзяцей». Так, запраўды, няма большага скарбу для народу, як здаровыя дзеці. І дзеля гэтага якраз кожны сьведамы Беларус на Захадзе павінен нешта рабіць, каб памагаць у гэтым змаганьні зь генацыдам на Беларусі. Ня трэба



*Беларускія дзеці ў в. Каменюкі. Здымак зроблены Ганнай Н. у травені сёлета.*

Нядаўна я меў нагоду быць на дзьвюх канфэрэнцыях, крыху зьвязаных з Чарнобылем. У канцы сакавіка ў парыжскім палацы «Mutualité» адбыўся калёквіюм «Дактароў сьвету» — так завецца арганізацыя маладых лекароў, што езьдзяць у іншыя краіны сьвету, каб лячыць там людзей. Тэмай калёквіюму было: «Экалягічныя зьнішчэньні ў Савецкім Саюзе». Тут можна было пачуць скаргі й дакоры дактароў і журналістаў з Эстоніі, Латвіі, Арменіі, Расеі, Украіны. Францускія лекары шмат гаварылі пра цяжкія вынікі чарнобыльскага выбуху, часта згадваючы Беларусь і Ўкраіну.



*Ахвяра чарнобыльскай радыяцыі ў гематалягічнай клініцы ў Менску. Здымак, атрыманы ад Камітэту «Дзеці Чарнобыля», быў зроблены ў травені сёлета.*

Другая канфэрэнцыя, на якую мяне запрасіў прафэсар хірургіі-дэпутат Б. Дэбрэ, сын калішняга прэм'ера за часамі ДэГоля, была на тэму «Вольная мэдыцына ўва ўсходніх краінах Эўропы». Я із свайго боку меў права запрасіць яшчэ адну асобу, і таму да мяне далучыўся мой прыяцель інж. Лявон Шыманец.

На канфэрэнцыю прыбылі прадстаўнікі Польшчы, Чэхаславаччыны, Вэнгрыі і Румыніі ў шуканьні матар'яльнай і навуковай дапамогі, каб палепшыць цяжкі стан мэдыцыны ў сваіх краінах. Усе яны былі з навуковымі тытуламі, прафэсары, шэфы шпіталёў, клінікаў, амаль усе гаварылі па-францускую.

разьлічваць на тое, што багатыя заходнія дзяржавы ўсё дадуць. Трэба браць прыклад з а. Аляксандра Надсона, які сваімі выступленьнямі на тэлебачаньні ў Англіі ды кантактамі з брытанскімі газэтамі здолеў знайсьці дапамогу сярод небагатых Ангельцаў, якія прысылаюць хоць і маленькія дары на Чарнобыль, а ў Бірмінгаме, дзякуючы захадам нашага сябры М. Баяроўскага, адзін Ангелец даў аўтафургон, а другі — даў бэнзыну, каб завезьці мэдыкамэнты на Беларусь.

У Францыі Ганна М., калі ў яе пасьля падарожжа на Беларусь правяралі радыяцыю (хоць Ганна ня была ў ваколіцах Гомеля й Магілёва), бачыла апарат на якім вісеў адрас Менску. Апарат выраблены ў Францыі, ён вымярае колькасьць шкодных для арганізму рэчываў. Прафэсар Д. Пэлерын, галоўны інспэктар атамнае энэргіі ў Францыі, дорыць гэты апарат для Беларусі. Прафэсара Пэлерына я ведаю асабіста, бо ён даўгі час быў дырэктарам школы, у якой я закончыў вышэйшую асьвету, а пасьля пад ягоным кіраўніцтвам шмат гадоў працаваў там выкладчыкам марфалёгіі.

Францыя прыняла таксама 1000 дзяцей з чарнобыльскай зоны на час школьных канікулаў. Ёсьць паміж імі і беларускія дзеці.

Іншыя дзяржавы таксама памагаюць чарнобыльцам. Але патрэбнае перш-наперш нашае шчырае і актыўнае далучэньне да справы дапамогі, бо калі мы будзем памагаць, то й іншыя дапамогуць, і Бог нам дапаможа.

З прыемнасьцю чытаю ў «Беларусе», што на пачатку верасьня сёлета на Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Кліўлендзе тэмай гутарак будзе «Дзеці Чарнобыля». Трэба спадзявацца, што на сустрэчы будзе прынятая рэзалюцыя, каб за межамі Беларусі стварыць цэнтральны орган дапамогі, як гэта ўжо зрабілі іншыя народы, каб усе дары ішлі ў адну касу. Было-б разумна, каб гэткі орган быў у Эўропе, бо тут бліжэй да Беларусі, і будзе таньней завозіць туды лякарствы. **М. Н-ч**

*З жыцьця ў Дэтройце*

## СПАТКАНЬНЕ ЗЬ «ДЗЯЦЬМІ ЧАРНОБЫЛЯ»

26-га ліпеня сёлета, прачытаўшы ў ранішняй газэце «Дэтройт Фры Прэс», што беларускія дзеці-ахвяры чарнобыльскай катастрофы знаходзяцца на адпачынку ў лягеры «Радуга» ў паўночна-заходняй частцы штату Мічыган, Беларусы з ваколіцаў Дэтройту пастанавілі адразу адведаць гэтых дзетак, хоць і далёкая дарога ад нас туды (250 міляў).

Знайшоўшы гэтае месца, каля пятай гадзіны папаўдні, якраз засталі гэтых 10 дзяцей (у веку 7-14 гадкоў) сабраных на вячэрні пасілак сярод многіх іншых амэрыканскіх дзяцей, хворых на рака або на ляўкоз.

Пазнаёміўшыся перш зь кіраўнічкай беларускай групы, Вольгай Волкавай і з др. Віталем Паўленкам, пачалі мы вітацца з усімі дзеткамі асабіста, ды кожны з нас меў нагоду знайсьці блізкага малога земляка. Каця Мазура цалавала дзевяцігадовага Паўліка зь Любанскага раёну (каля Слуцка), Вера Артон знайшла землячка з-пад Пінска, які ёй сказаў: «У нас у бальніцы ў Менску ёсьць многа дзяцей з-пад Пінска». А др. Сажыч абнімаў 13-гадовую Вольгу Аляшкевіч з Баранавіч, у якое папытаўся, ці ведае яна, дзе Наваградак, а яна кажа: «Канешна, мой тата з Наваградчыны, зь мястэчка Любча над Нёманам, але цяпер працуе ў Баранавічах». Волечка добра гаварыла па-беларуску, але некаторыя дзеткі ня зусім разумелі нашую мову.

Адны зь іх выглядалі фізычна ня дрэнна (у стадыі рэмісіі), але глядзець на іншых — сэрца сьціскалася з жалю: валаскі іх павыпадалі ад хіматэрапіі, ды худзенькія яны й бледныя. Усе яны казалі нам, што іх тут вельмі добра даглядаюць, кормяць ды забаўляюць.

Даведаліся ад іх, што з дому на дарогу далі ім кажнаму па 100 рублёў, а калі замянілі на мясцовую валюту, дык атрымалі па 17 даляраў. Таму дэтройцкія візытатары вырашылі даць кажнаму зь іх дадаткова па 20 даляраў. Дзеткі былі вельмі задаволеныя, што амэрыканскія Беларусы не забылі пра іх. Др. Сажыч прасіў іх, каб вучыліся ў школах мовы сваіх бацькоў ці бабак, бо вось у Амэрыцы Беларусы інакш не гавораць як толькі па-беларуску й па-ангельску.

Дзень перад нашым візытам наведала іх група Ўкраінцаў, а вось на наступны дзень яны мелі ўжо выбірацца ў падарожжа дадому. Асабліва шчыра дзякавала нам са сьлязамі ў вачох кіраўнічка Вольга Андрэеўна, настаўніца ангельскай мовы ў Менску, добра гаворачы з намі па-беларуску.

Беларуская дыпляматычная місія пры Аб'еднаных Нацыях у Нью-Ёрку таксама была ўдзячная нам за наведаньне й падтрымку «дзяцей Чарнобыля».

**Юзік С.**

## ІНДЫВІДУАЛЬНАЯ ДАПАМОГА ЧАРНОБЫЛЬЦАМ

Старшыня камітэту «Дзеці Чарнобыля» БНФ і дэпутат ВС БССР сп. Генадзь Грушавы сказаў газэце «Беларус» наступнае:

Калі хто-небудзь з суродзічаў на Захадзе хоча дапамагчы дзецям-ахвярам чарнобыльскае радыяцыі, дык можа гэта зрабіць беспасярэдне й проста, пасылаючы ў канвэрце або ў пакеце самыя звычайныя мультывітаміны.

Пасылаць (заказною поштай) на адрас:

SOVIET UNION
220082 Менск
пр. Пушкіна д. 47, кв. 89
Грушавому Г. В.

## МЫТА ЗА ДАЗЫМЭТАР?!!

Як нам паведаміў сваяк суродзічаў на Беларусі, улады садралі ў Наваградку з жанчыны-пэнсіянеркі больш за 90 рублёў мыта за атрыманы ёю з Амэрыкі дазымэтар «Монітар-4». Сума гэтая перавышае месячную пэнсію жанчыны. Гэтак савецкая ўлада «дапамагае» людзям змагацца з чарнобыльскай радыяцыяй.

## БЕЛАРУСЫ ЛАПЛАНДЫІ

У Мурманску 17 чэрвеня сёлета адбыўся першы неафіцыйны сход Беларусаў Лапляндыі. У сходзе ўзяло ўдзел адзінаццаць асобаў, але ўдзельнікі ягоныя спадзяюцца, што неўзабаве зьбярэцца большая колькасьць суродзічаў і будзе засьнаванае афіцыйна беларускае культурнае таварыства. Часовым старшынём пасьля першага сходу стаўся малады й энэргічны сп. Андрэвуш Шчура. Калі-б хто-небудзь хацеў зь ім наладзіць сувязь, з чаго нашы далёкія землякі былі-б вельмі радыя, рэдакцыя «Беларуса» можа даць адрас.

## ЗВАРОТ ДА БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

Газэта «Літаратура і Мастацтва» (10.VIII) апублікавала зварот арганізацыйнага камітэту згуртаваньня «Бацькаўшчына» «Да Беларусаў сьвету». Згуртаваньне паставіла сабе мэту: «аб'яднаць Беларусаў Савецкага Саюзу, а потым і сьвету», каб «спрыяць духоўнаму, нацыянальнаму адраджэньню ўсяго беларускага народу, палітычнаму і эканамічнаму сувэрэнітэту Беларусі».

ПРАЕКТ ДЭКЛЯРАЦЫІ

# БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

скай, часткова Пскоўскай вобласьцяў Дзеля імпэрскіх палітычных мэтаў у 1939 годзе Літве была передадзена Віленшчына разам зь Вільняй, а ў 1944 годзе Польшчы — Беласточчына зь Беластокам. Усё гэта адбывалася са згоды залежнага ад Масквы кіраўніцтва БССР, якое паслухмяна ішло на згубныя эканамічныя і палітычныя экспэрымэнты над народам, якое стала саўдзельнікам у злачынствах калектывізацыі, дэнацыяналізацыі, генацыду супроць народу.

Падпісаньне прадстаўніком БССР Саюзнага дагавору 1922 г. ня мела юрыдычнай сілы, бо гэтае рашэньне прынятае пад дыктоўку Масквы ва ўмовах таталітарнага рэжыму і савецкай акупацыі, без правядзеньня рэфэрэндуму і ратыфікацыі рэспублікай гэтага акту. Усё гэта дае права Вярхоўнаму Савету БССР не заключаць новы саюзны дагавор і дэнансаваць дагавор 1922 году ў аднабаковым парадку.

Аднак нацыянальна-адраджэнскія і дзяржаўна-стваральныя працэсы, нягледзячы на перашкоды, працягвалі разьвівацца ў БССР. Гэта было станоўча ацэнена законным Урадам БНР у эміграцыі. У 1925 годзе частка дзеячоў Ураду БНР прызнала нацыянальна-будаўнічую дзейнасьць у БССР і вярнулася на Бацькаўшчыну, чым засьветчыла факт пэўнай пераемнасьці і пагадненьня паміж БНР і БССР. Але неўзабаве ўсе дзеячы БНР, што вярнуліся на Беларусь, былі рэпрэсіяваны і расстраляны.

Беларускі народ са зброяй у руках выступаў супроць камунізму ў Слуцкім паўстаньні 1920 году, у часы калектывізацыі. Гераізм і самаахвярнасьць нашага народу ў барацьбе з фашызмам у Другой сусьветнай вайне здабылі прызнаньне міжнароднай супольнасьці. Беларусь у 1946 годзе стала сябрам (членам)-заснавальнікам Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў. Аднак гэта не зьмяніла каляніяльнага становішча Беларусі. Таталітарная дыктатура растаптала правы беларускага народу і давяла эканоміку і культуру Беларусі да крызіснага, амаль бязвыхаднага стану. Апошняе глябальнае злачынства камуністычнай імпэрыі — Чарнобыльская катастрофа, маўчаньне вакол яе наступстваў — галоўны ўдар нанесла па Беларусі. Выратавацца ад чарнобыльскай бяды немагчыма, ня маючы дзяржаўнай незалежнасьці. Гісторыя няўмольная: нястрымна набліжаецца распад апошняй імпэрыі сьвету.

Незалежнасьць Беларусі павінна ажыцьцяўляцца праз пераходны пэрыяд, палажэньні якога вызначаюцца гэтай Дэкляркацыяй і дагаворам аб пераходным пэрыядзе паміж БССР і СССР тэрмінам ня больш аднаго году, на працягу якога Беларусь захоўвае пэўныя саюзныя стасункі з СССР.

Абагульняючы сказанае і

Зыходзячы

— з унівэрсальнага права народаў на самавызначэньне і незалежнае дзяржаўнае жыцьцё, замацаванага ў артыкуле 1 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах;

— з тысячагадовай традыцыі беларускай дзяржаўнасьці;

— з акту абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі Радай Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году;

— з арт. 69 дзейнай Канстытуцыі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, які дэкляруе яе сувэрэнітэт;

Улічваючы,

што Беларусь зьяўляецца сябрам (членам)-заснавальнікам Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў і паўнапраўным суб'ектам міжнароднага права;

Адзначаючы,

— што палітычны сувэрэнітэт Беларусі можа рэалізавацца толькі ў форме незалежнай нацыянальнай дзяржаўнасьці;

— што незалежнасьць Беларусі — натуральная і галоўная ўмова забесьпячэньня правоў і свабодаў грамадзянаў Беларусі, жыцьцёвых інтарэсаў яе насельніцтва і гістарычнай пэрспэктывы беларускага народу, гарантыя самавызначэньня і свабоднага выбару Рэспублікай свайго шляху,

ВЯРХОЎНЫ САВЕТ БЕЛАРУСКАЙ ССР, ЯК ВЫРАЗЬНІК СУВЭРЭННАЙ ВОЛІ НАРОДУ БЕЛАРУСІ, ПАСТАНАЎЛЯЕ:

1. Пацьвердзіць незалежнасьць Беларусі паводле Трэцяй Устаўной Граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 году.

Надаць Беларускай дзяржаве афіцыйнае найменьне **Беларуская Рэспубліка,** якое сьветчыць пераемнасьць дзяржаўнасьці ад Беларускай Народнай Рэспублікі і ўзьніклай як яе наступства Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Найменьне **Беларуская Рэспубліка** адлюстроўвае і замацоўвае рэспубліканскую форму дзяржаўнага кіраваньня на Беларусі.

Незалежнасьць Беларускай Рэспублікі **азначае:**

— поўны сувэрэнітэт Беларусі, вяршэнства органаў дзяржаўнай улады Беларускай Рэспублікі пры вырашэньні ўсіх пытаньняў дзяржаўнага, палітычнага і эканамічнага жыцьця Беларусі на ўсёй яе тэрыторыі;

— абсалютнае права беларускага народу валодаць, карыстацца і распараджацца нацыянальным багацьцем Беларусі;

— вяршэнства Канстытуцыі і Заканадаўства Беларускай Рэспублікі на ўсёй яе тэрыторыі, адпаведнасьць заканадаўчых актаў Беларускай Рэспублікі міжнародным пагадненьням аб правах чалавека;

— увядзеньне грамадзянства Беларускай Рэспублікі;

— гарантыі гістарычнай пэрспэктыве беларускай нацыі, яе мове і культуры, мовам і культурам нацыянальных меншасьцяў Беларусі;

— адсутнасьць на тэрыторыі Беларусі ўзброеных сілаў іншых дзяржаў і ператварэньне яе ў бязьядзерную краіну;

— сувэрэннае права народу Беларусі вызначаць свой грамадзкі лад і форму дзяржаўнага кіраваньня.

2. Пацьвердзіць юрыдычную сілу палажэньня Трэцяй Устаўной Граматы Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ад 25 сакавіка 1918 году, паводле якой уся ўлада ў дзяржаве перадаецца Ўсебеларускаму Ўстаноўчаму Сойму.

3. Прыпыніць у дачыненьні да Беларускай Рэспублікі дзеяньне Саюзнага дагавору 1922 году, які:

а) супярэчыць палажэньням Трэцяй Устаўной Граматы Рады БНР аб незалежнасьці Беларусі і выключнаму праву Ўсебеларускага Ўстаноўчага Сойму прымаць рашэньне пра дзяржаўныя сувязі Беларусі;

б) падпісаны БССР ва ўмовах незаконнай яе акупацыі і не ратыфікаваны зьездам Саветаў (Вярхоўным Саветам) БССР;

в) фактычна страціў сілу ў выніку ператварэньня СССР ва ўнітарную дзяржаву.

4. Абвясьціць да моманту скліканьня Ўсебеларускага Ўстаноўчага Сойму пераходны пэрыяд, падчас якога:

а) дзейнічаюць тыя нормы Канстытуцыі БССР і заканадаўчыя акты, якія не супярэчаць гэтай Дэклярацыі і міжнародным пагадненьням аб правах чалавека;

б) вышэйшую дзяржаўную ўладу ў Беларускай Рэспубліцы ажыцьцяўляе яе Вярхоўны Савет;

в) пад міжнародным кантролем праводзяцца выбары дэлегатаў на Ўсебеларускі Ўстаноўчы Сойм.

* * *

Беларуская Рэспубліка апякуецца Беларусамі, што жывуць па-за яе межамі, спрыяе захаваньню і разьвіцьцю іхніх рознабаковых сувязяў з Бацькаўшчынай.

Беларуская Рэспубліка выказвае гатоўнасць і добрую волю да ўсебаковага супрацоўніцтва і ўзаемавыгадных пагадненьняў з суседнімі дзяржавамі, з усімі народамі сьвету.

* * *

Дэклярацыя ўступае ў сілу з моманту яе прыняцьця.

## НА МІЖНАРОДНЫМ ФОРУМЕ «МІРНЫ ШЛЯХ ДА ДЭМАКРАТЫІ»



Беларускі прадстаўнік сп. Вячаслаў Станкевіч на міжнароднай заходня-ўсходняй канфэрэнцыі ў Празе ў ліпені сёлета гаворыць пра рост дэмакратыі ў Беларусі і ролю ў гэтым працэсе Беларускага Народнага Фронту.

## ВЕРШЫ ЭМІГРАНТАЎ

Бюлетэнь Таварыства Беларускай Мовы «Наша Слова» (№ 3, травень 1990), у рубрыцы «Зямлі бацькоў не анямець» пад заг. «Жыватворныя крыніцы», зьмясьціў вершы Натальлі Арсеньневай, Масея Сяднёва (падборка вершаў Сяднёва зьмешчаная таксама ў часапісе «Крыніцы» № 7), Алеся Салаўя, Рыгога Крушыны, Уладзімера Клішэвіча, Янкі Золака, Міхася Кавыля, Уладзімера Дудзіцкага і ўрывак з нарысу Юркі Віцьбіча.

## НА ФОНД АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

Ніжэй падаём поўны сьпісак асобаў і арганізацыяў, што прыслалі да 15 жніўня сёлета ахвяры па тысячы даляраў на Фонд Адраджэньня Беларусі:

В. і З. Кіпель, А. Кіпель, Ю. і Л. Кіпель, А. і Н. Сільвановіч, Я. Запруднік, У. Набагез, А. Асіповіч, М. Смаршчок, Ф. і В. Бартуль, С. і Л. Гутырчык, Я. і М. Азарка, М. Міцкевіч, Л. Стагановіч, Н. і В. Сьнежка, парафія сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ у Таронце, Л. Трусэвіч, Б. і А. Даніловіч, М. і А. Абрамчык, М. і В. Махнач, Ф. Сак, Н. Жызьнеўскі, парафія Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Кліўлендзе, М. і М. Ганько, Б. Грабінскі, Я. Сажыч, В. Стома, Згуртаваньне Беларусаў Канады, Згуртаваньне Беларусаў штату Ілінойс, І. Гайдзель.

Ахвяры прыслалі таксама наступныя асобы і арганізацыі:

І. Цупрык, Т. Іванка, М. Галоўка, В. Яцэвіч, а. А. Яноўскі, М. Касянчук, В. Кажан, Ю. Касьцюкевіч, Я. Каваленка, Я. Крывенка, Я. П., А. Ліхач, Э. Маркоўская, В. Шчэцька, С. Шабовіч, У. Сітнік, Л. Сотак, Г. Тэдонэ, А. Тэлеш, К. Верабей, Б. З. «Белавежа», сястрыцтва парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе, Т. Цупрык, Я. Шымчык, Д. Міцкевіч, М. Александровіч, А. Бартуль, Ананімна, А. Акановіч, В. Балтрусэвіч, М. Міхальчук, сп-ня Кінейка, Т. Шыбут, У. Кабушка, В. Тумаш, Я. Вініцкі, К. Шэлест, М. Грэбень, А. Стрэчань, С. Янкоўскі, Ч. Найдзюк, Ф. Турло, Г. Акаты, Н. Кіт, Я. Мікусь.

Усім шчыры дзякуй!

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

# БЕЛАРУСКАЕ АБ'ЕДНАНЬНЕ Ў ПАЎДЗЁННАЙ АЎСТРАЛІІ І ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ ФЭДЭРАЛЬНАЙ РАДЫ

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Падаецца да агульнага ведама Беларусаў у Аўстраліі і за межамі яе, што 9-я Сустрэча Беларусаў Аўстраліі адбудзецца 6-9 студзеня 1991 году ў Адэляйдзе ў Паўдзённай Аўстраліі.

ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ

**Нядзеля 6-га:** Прыезд і закватэраваньне гасьцей. А 6-й гадзіне ў ўвечары павячэр'е ў Беларускай царкве.

**Панядзелак 7-га:** Калядная багаслужба а 10-й гадз. ўраньні. А 4-й папаўдні — адкрыцьцё Сустрэчы: рэфэрат, канцэрт, супольны пачастунак. Забава ў залі Капэрніка.

**Аўторак 8-га:** Пікнік цэлы дзень у Банайтэнскім парку.

**Серада 9-га:** А 9-й ураньні паседжаньне Фэдэральнай Рады Б. А. А. А 4-й папаўдні пачастунак-разьвітаньне і закрыцьцё Сустрэчы.

Шчыра запрашаем усіх сяброў Фэдэральнай Рады, іншых беларускіх арганізацыяў у Аўстраліі, замежных гасьцей і мясцовых Беларусаў Адэляйды. Усіх міла вітаем!!!

Закватэраваньне ўсім гасьцям будзе забясьпечана. У гэтай справе просім зьвяртацца на адрас:

Янка Ролсан, 2/9 Anglers Court, Westlakes Shore, Australia; tel.: 08 491 256 або
Я. Оршанскі, 6 Harold St., Payneham, 5070 Australia; tel.: 08 337 5666

**БЕЛАРУСКАЕ АБ'ЕДНАНЬНЕ Ў ПАЎДЗЁННАЙ АЎСТРАЛІІ**
**Я. Оршанскі, сакратар**

# «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАРУСІ

Нашая беларуска-амэрыканская моладзь, нашыя славутыя амбасадары беларускай культуры, танцавальна-фальклёрная група «Васілёк» наведала сёлета ў чэрвені Беларусь. На беларускай зямлі былі яны й летась, калі наведалі Беласточчыну і правялі там два тыдні з канцэртамі, паходамі ды сяброўскімі сустрэчамі. Аднак, сёлета гэта было адмысловае падарожжа, бо гэта была першая нагода ступіць на зямлю сваіх бацькоў, сваіх дзядоў, быць на тэрыторыі сучаснай Беларускай дзяржавы.

Арганізатарам і нашым усячасным спадарожнікам быў Анатоль Абрамчык, прадстаўнік таварыства «Радзіма», якое нас запрасіла і гэтак добра намі апекавалася праз увесь наш пабыт на Беларусі, за што мы ім вельмі ўдзячныя. Спадар Абрамчык быў у цяжкой сытуацыі: ён падрыхтаваў нам безьліч экскурсіяў, пагулянак, канцэртаў, а нам хацелася пабачыцца і з моладзьдзю зь Беларускага Народнага Фронту, пра якіх мы ўжо так шмат чулі ды зь якімі ў нас былі ўжо знаёмствы. Дык нам трэба было хуценька завіхацца, каб увабрацца ў заплянаваны для нас расклад, а сп. Абрамчык усё нас падсьпешваў. Мы яго й пачалі жартам называць спадар «Хуценька».



*Радасная сустрэча з новымі сябрамі перад гатэлем «Юбілейная» ў Менску.*

Іхныя ўражаньні, іхныя прыгоды і ўспаміны некаторыя з нас — бацькі й знаёмыя — маглі ўжо пачуць ці-то прыватна, ці-то публічна, але важна, каб шырэйшая публіка тут, на эміграцыі, ды й на Бацькаўшчыне, куды трапляе «Беларус», мела магчымасьць прыслухацца да іхняга голасу, шчырага й адкрытага. Вось-жа дзеля гэтага й была запачаткаваная сэрыя інтэрв'ю для газэты «Беларус» з нашымі падарожнікамі.

На месцы гэтта будзе падаць поўны сьпіс групы: Алла Орса-Рамана, кіраўнічка групы, Павал і Коля Рамана, Алеся й Юрка Кіпель, Дарота й Пётра Рыжы, Галіна й Коля Бахар, Вера Запруднік, Ліда Данілюк, Віктар Тур, Надзя (Нэнсы) Захаркевіч, Аня Бартуль, Паўлінка Сурвіла-Бакман ды спадарожніцы й добрыя апякункі Вера Бартуль і Надзя Кудасава.

Інтэрв'ю адбывалася падчас пробы «Васілька», які рыхтаваўся да наступнага выступу — цяпер на сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. «Васілёк» не «спачывае на лаўрах», а працуе над сабой усячасна. Вось-жа, запытаньня, спачатку танцаўнікі прыходзілі адзін па адным, ці парамі, каб выказаць свае ўражаньні, свае думкі пра падарожжа на Беларусь.

Перш-наперш гутака з Аллай Орса-Рамана, Алюньцяй, як мы, ейныя блізкія сябры, называем яе праз даўгія гады нашага сяброўства.

**Алюньця**: Пачалося нашае спатканьне зь Беларусамі яшчэ ў Маскве, дзе нас вітала добрая грамада, але пра гэта раскажа пазьней Юрка Кіпель. У Менску нас сустрэла на аэрапорце вялікая група з караваямі, зь песьнямі. Але я не адразу адчула, што я на Беларусі — усё яшчэ было, як у тумане. Узяло крыху часу пакуль усьведаміла, што гэта мы на Беларусі, дзе я нарадзілася, куды заўсёды хацелася прыехаць, пабачыць зноў зямлю, для якой мы ўсё сваё жыцьцё працуем. Першае цікавае ўражаньне было, калі засьпявалі нам «Пагоню» Багдановіча, праўда, у іншым музычным варыянце, як мы тут сьпяваем, дык нам, на жаль, цяжка было далучыцца да іх.

Чакала нас вялікая праграма — наступныя колькі дзён былі вельмі занятыя, вельмі стамляючыя, але й вельмі задавальняючыя.

У той дзень як прыляцелі — пасьля 10-гадзіннага трансатлянтычнага пералёту, 6-гадзіннага пабыту ў Маскве й 2-гадзіннага лёту ў Менск — мы, праўда, нічога не рабілі, апрача вячэры й спатканьня ды гутарак зь сябрамі, якія нас спатыкалі.

На наступны дзень — экскурсія па Менску, галоўным эмацыянальным пунктам якой былі, зразумела, Курапаты. Зрабіла на нас гэта надзвычайна глыбокае ўражаньне. Сяржук Сокалаў-Воюш расказаў нам гісторыю як адкрыцьця гэтага страшэннага месца, гэтак і гісторыю расстрэлаў, у якіх загінулі тысячы беларусіх патрыётаў. Заўважыла я на вачох нашай моладзі сьлёзы, а некаторыя нават не саромячыся плакалі, успамінаючы лёс сваіх родных. Была такая цішыня — мы доўга не маглі нават гаварыць адзін з адным. Кожны толькі паклаў кветачку на гэтую вялікую беларускую магілу.

Пазьней Хатынь — другое месца нашага беларускага галякосту. Колькі мы, Беларусы, іх, гэткіх галякостаў, перажылі! Колькі комінаў згарэлых вёсак, колькі сем'яў разьбітых, зьнішчаных! Нам гэта ўсё вельмі баліць. Кветкі, што мы паложым на іхныя помнікі — гэта толькі невялікая, але шчырая адзнака нашай пашаны.

Наш гід у аўтобусе гаварыла па-беларуску — між іншага, спэцыяльна для нас адшуканая. Яна нам шмат апавядала пра Менск. Дапамогай гіду былі й вельмі мілыя, нашыя ўжо старыя знаёмыя зь леташняга пабыту ў Беласточчыне: Ада Чачуга, карэспандэнтка зь беластоцкае «Нівы», і Тацьцяна Антонава з «Голасу Радзімы». Яны нам шмат расказалі пра гісторыю Менску. Расказалі й мы ім пра некаторыя мамэнты, якія мы лепш ведалі — прыкладам, пра месца, дзе была абвешчаная Беларуская Народная Рэспубліка ў 1918 годзе. Там мы папрасілі затрымацца й зрабіць фатаграфію.

*(Працяг на 7-й б.)*

# ПАТРЫЯРХ ДЫМІТРЫЁС ПРЫНЯЎ БЕЛАРУСКУЮ ДЭЛЕГАЦЫЮ



*Айцец Мячыслаў Брынкевіч вітае Патрыярха Дымітрыёса.*

Яго Блажэнства Архіепіскап Канстантынопальскі і Ўсяленскі Патрыярх Дымітрыёс наведаў сёлета Злучаныя Штаты Амэрыкі, дзе быў ад 2 да 29 ліпеня. Ён быў сустрэты зь вялікімі почасьцямі ды спаткаўся з мноствам вернікаў праваслаўнага (як і іншага) духавенства, а таксама з высокімі ўрадавымі асобамі, у тым ліку з прэзыдэнтам ЗША Джорджам Бушам. Мэта прыезду (упяршыню ў ЗША) была адведаць Грэцкую Царкву ў Амэрыцы ды шмат якія іншыя праваслаўныя цэрквы на чужыне, што належаць да юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярха і якія ўзначальвае Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіепіскап Якавас, Экзарх Патрыярха Дымітрыёса.

Рада Беларускай Праваслаўнай Царквы Паўночнай Амэрыкі (Епархія), якая ўваходзіць у юрысдыкцыю Ўсяленскага Канстантынопальскага Патрыярха, была ўдастоена спаткаць Патрыярха Дымітрыёса 14 ліпеня ў гатэлі Вальдорф-Асторыя ў Нью-Ёрку. Спатканьне адбылося ў 11 гадзін раніцы. Беларускую дэлегацыю прадставіў Патрыярху Архіепіскап Якавас, апякун нашай епархіі. Яго Сьвятасьць вітаўся з кожным з дэлегацыі і блаславіў кожнага. Дзяўчаткі Алена Брынкевіч і Тамара Дутко ўручылі кветкі Патрыярху Дымітрыёсу й Архіепіскапу Якавасу. Айцец Мячыслаў Брынкевіч ад усяе дэлегацыі вітаў Патрыярха: «Ваша Сьвятасьць Патрыярх Дымітрыёс! З Божае Ласкі сяньня мы маем вялікую радасьць і гонар непасрэдна спаткаць Вас, кіраўніка Вялікае Царквы Канстантынопаля і Ўсяленскага Пасаду...» Вітаньне закончыў добрымі пажаданьнямі ды словамі «Іс полла эті дэспота». Айцец Канстантын Бандарук уручыў Патрыярху, як падарунак, ікону Беларускіх сьвятых, спэцыяльна для гэтага выканаую.

На гэтай аўдыенцыі Яго Блажэнства Патрыярх Дымітрыёс прамовіў да нашай дэлегацыі і сказаў, у асноўным, наступнае: «Я ведаю, што ваш народ моцна пацярпеў у сваім гістарычным жыцьці, асабліва ў гэтым стагодзьдзі, ад перасьледу за веру й дамаганьне волі ад бязбожнай чужой улады... Я захоплены моцнай верай вашага народу на бацькаўшчыне ды вашай верай і дзейнасьцю на эміграцыі. Ваша вера, захаваньне свае мовы, культуры й традыцыяў сваіх продкаў сьветчаць, што з Божай дапамогаю ваш народ дасягне ўсяго таго, чаго ён, як і ўсе іншыя народы, дамагаецца». Пасьля ўсе сьвятары атрымалі падарунак ад Патрыярха — нагрудны крыж.

Яго Блажэнству быў уручаны таксама мэмарандум, падпісаны адміністратарам Беларускай Епархіі а. Протапрасьвіцерам Сьвятаславам Каўшом, настаяцелямі прыходаў і старшынямі царкоўных управаў. Апрача звароту да Патрыярха ды іншых напамінаньняў, у мэмарандуме ёсьць і такі параграф: «У часе 2-ой сусьветнай вайны нашы праваслаўныя айцы й міране беларускага народу сабраліся ў горадзе Менску ў 1942 годзе, каб абвесьціць вызваленьне Беларускае Праваслаўнае Царквы з путаў атэізму.*) Наша Царква ў тым часе ўсім сэрцам жадала быць пад амафорам Усяленскага Пасаду Канстантынопаля. Зь міласьці ўсемагутнага Бога, наша надзея споўнілася толькі на эміграцыі, за што мы вельмі ўдзячныя.»

Склад делагацыі Беларускай Епархіі Праваслаўнай Царквы Паўночнай Амэрыкі:

Прыход Сьв. Еўфрасіні Полацкай у Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзы:

а. Протапрасьвіцер Сьвятаслаў Коўш — адміністратар Епархіі; а. Мячыслаў Брынкевіч — настаяцель прыходу; а. дыякан Алег Махнюк; інж. Міхась Бахар — старшыня Царкоўнае Рады; сп. Аўген Скаўронскі — рэгент; сп-ня Ірэна Дутко — культурны рэфэрэнт Рады Нацыянальнасьцяў штату Нью-Джэрзы; сп. Віталі Цярпіцкі — заступнік старшыні Беларускага Кангрэсовага Камітэту; сп-чна Тамара Варанцова; Алена Брынкевіч і Тамара Дутко — дзяўчаткі, што дарылі кветкі.

Прыход Сьв. Еўфрасіні Полацкай у Таронта, Канада: а. мітр. пратаярэй Павал Вялікі — настаяцель.

Прыход Сьв. Юр'я ў Чыкага: а. Канстантын Бандарук — настаяцель; сп. Міхась Каленік — старшыня царкоўнае рады.

Прыход Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд-Гіле, Нью-Ёрк: а. ігумен Грэгоры О'Кіф — настаяцель (ня быў прысутны); сп. Канстантын Мерляк — старшыня царкоўнае ўправы; сп. Васіль Шчэцька — сакратар царкоўнае ўправы.

*) Усебеларускі Царкоўны Сабор, 3. VIII.-2. IX. 1942 г., аднавіў Беларускую Праваслаўную Царкву аўтакефальнай (ці незалежнай).

**Васіль Шчэцька**

### КОЛЬКІ АДЧЫНЕНА ЦЭРКВАЎ?

«Як паведаміў нам заступнік упаўнаважанага Савету па справах рэлігіяў пры Савеце Міністраў БССР Цярэньці Грыгаравіч Купчэня, толькі за апошні год у БССР адчынілася каля сотні цэркваў. Зь іх праваслаўных — 83. Па вобласьцях: у Берасьцейскай — 18, Віцебскай — 14, Гомельскай — 7, Гарадзенскай — 14, Менскай — 25, Магілеўскай — 4. Каталіцкіх: у Берасьцейскай — 3, Віцебскай — 4, Гомельскай — 1, Менскай — 7, Гарадзенскай — 21». *(«Сельская газета», 12. VIII. 90)*

*З жыцьця ў Чыкага*

## ЦАРКОЎНЫ ЮБІЛЕЙ

Сёлета мінула 35 гадоў ад заснаваньня Беларускай каталіцкай царквы Хрыста Збаўцы ўсходняга абраду ў Чыкага. Угодкі былі адзначаныя першага ліпеня.

У сьвяткаваньні ўзяў удзел Біскуп Плясыда Радрыгез і шмат сьвятароў.



*Біскуп Плясыда Радрыгез у часе казані.*

Біскупа віталі ля ўваходу ў царкву сп-ня Клера Газолё кветкамі, др. Вітаўт Рамук прамовай, а сп-ня Вера Рамук традыцыйнымі хлебам і сольлю. Сьв. Літургію адслужыў а. Язэп Сыру ў асысьце шасьцёх сьвятароў і дыякана. Прыгожа сьпяваў хор пад кіравецтвам Эдвіна Ўокера. Была адслужаная паніхіда-рэквіем за сьвятароў-заснавальнікаў царквы ды ўсіх іншых сьвятароў, што служылі ў ёй, а таксама ўсіх ейных дабрадзеяў, што адыйшлі ў другі лепшы сьвет.

У сваёй красамоўнай казані Біскуп Радрыгез нагадаў гісторыю царквы ды гаварыў аб значэньні пасьвячаных ім іконаў на абноўленым іканастасе.

Пасьля багаслужбы ў царкоўнай залі, прыгожа ўдэкараванай купальскімі вяночкамі й зяленівам, у тым ліку й папарацьцю, адбылося застольле. У часе яго двох музыкантаў падыгрывалі беларускія ды іншыя мэлёдыі. З прамовай выступіў праф. Томас Бэрд з Квінскага каледжу ў Нью-Ёрку. Ён расказаў пра сваё падарожжа ў Беларусь і пра купальскія звычаі на Беласточчыне, адказаў на розныя пытаньні пра Беларусь.

Уся праграма сьвяткаваньня, якую сп. Н. Жызьнеўскі зафіксаваў на відэастужку, прайшла вельмі ўдала. Тут трэба выказаць падзяку сп-ні Рамук, сп. Ніку Жызьнеўскаму ды новаму іміграпту зь Беларусі за ўдэкараваньне залі.

**Др. Вітаўт Рамук**




*Такі сымпатычны шарж прыслаў газэце «Беларус», дзякуючы падарожжу «Васілька» на Беларусь, 35-гадовы мастак-карыкатурыст Яўген Булава з Магілева. Запраўды, газэта «Беларус» стаецца ўсё больш лучнікам паміж суродзічамі на эміграцыі і на Бацькаўшчыне.*

## НА ВЫСТАЎЦЫ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ

Ад 11 да 13 ліпеня сёлета Беларускі Каардынацыйны Камітэт экспанаваў беларускае мастацтва ды пісьменства на выстаўцы этнічных групаў у Штатавым будынку ў часе Тыдня Паняволеных Народаў. Наш стэнд аформілі сп-ні Людвіка Беленіс і Вера Рамук. З увагі на сёлетні скарынаўскі юбілей шмат матар'ялаў на стэндзе было прысьвечана Скарыну: прыгожы насьценны каляндар «Шляхамі Францыска Скарыны», выданы ў Менску; каталёг выстаўкі «Франьцішак Скарына і яго час» Анатоля Белага; партрэт Скарыны, вытрымкі зь яго Бібліі ды інш. Упяршыню быў выстаўлены плякат «Усебеларускія сьвятыя», выдадзены ў Менску з нагоды 400-годзьдзя ўстанаўленьня Патрыярхату на Русі.

Былі раскладзеныя ілюстрацыі зь менскіх часапісаў з выявамі танцавальных гурткоў, народных касьцюмаў, прыгожыя вышыўкі, сурвэткі, лялькі ў нацыянальным уборы, ды палітычная і этнаграфічная карта Беларусі, а таксама розны даведачы матар'ял.



*Частка беларускага стэнду.*

Былі паказаныя на тэлевізары для наведнікаў відэастужкі «Дзеці Чарнобыля» і «Беларускае вясельле» ды відэастужка экспанатаў з калекцыі сп-няў Людвікі Беленіс, Веры Рамук і Эўдакіі Жызьнеўскай.

Шмат наведнікаў распытвала пра Беларусь. Прыемна было спаткацца й пагутарыць па-беларуску зь нядаўнымі эмігрантамі зь Беларусі, асбліва з адным прафэсарам і ягонай жонкай зь Менску.

Увечары 11 ліпеня ў Штатавым будынку адбылося прыняцьцё для прадстаўнікоў арганізацыі Паняволеных Народаў. На ўрачыстасьці сп-ня Вера Рамук прасьпявала амэрыканскі гімн. Старшыня Паняволеных Народаў сп. Казімір Оксас гаварыў пра дзейнасьць арганізацыі. Былі ўручаныя ўзнагароды заслужаным асобам. Выступалі з прамовамі прадстаўнікі ад розных этнічных групаў. Ад імя БКК Чыкага прамаўляла сп-ня В. Рамук, падкрасьляючы патрэбу далейшага змаганьня за поўнае забясьпечаньне правоў чалавека.

У невялікай музычнай частцы праграмы сп-ня В. Рамук выканала песьню «Полька Янка» пад акампанімэнт музыкаў.

**Вір**

## УДАКЛАДНЕНЬНЕ СУМЫ САБРАНЫХ ГРОШАЙ

У нумары 370-м «Беларуса» ў карэспандэнцыі М. Н. было напісана, што Беларусы Аўстраліі сабралі «каля 30 тысячаў даляраў на дапамогу ахвярам Чарнобыля» і што «грошы будуць перасланыя ў Лёндан». Рэдакцыя «Беларуса» дастала афіцыйны ліст ад Выканаўчага Камітэту Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі (Камітэт мае статус для зьбіраньня грошай на дапамогу ахвярам Чарнобыля па цэлай Аўстраліі) з заявай, што «ў касе Чарнобыльскага Фонду на сёньняшні дзень (ліст датаваны 2 ліпеня 1990 г.) толькі 21 тысяча даляраў». Ліст падпісаў сакратар выканаўчага камітэту Фэдэральнай Рады Бел. Арг. у Аўстраліі сп. Паўла Гуз.

*Ліст у Рэдакцыю*

### «БЕЛАРУС» ДАПАМОГ

У лютым 1990 году я зьвярнулася ў амэрыканскае пасольства ў Маскве, каб пусьцілі ў адведкі да сваякоў у ЗША. Як і многім іншым, мне не дазволілі. Тады май бацька, Л. Зубараў, аўтар кнігі пра Максіма Багдановіча, напісаў аб гэтым у рэдакцыю «Беларуса». Мне далалі нумар газэты, дзе была зьмешчана зацемка аб гэтым.

Я зноў пайшла ў пасольства, паказала газэту... і атрымала дазвол. Цяпер я ў ЗША і хачу праз газэту выказаць падзяку сябрам-беларусам.

**Ала Зубарава**

### Ш-У-К-А-Ю-Ц-Ь!

**КЛІМЯНКОВА Пятра Сямёнавіча** зь вёскі Альхоўка Віцебскай вобласьці шукае ЯРУЛІНА Натальля, жыхарка Вільні (вул. Архітэкту 3-41).

**Сям'ю НАЙДЗЕНА Міхаіла** (жонка — Параскева, дачка — Аляксандра), што выехала ў ЗША ў 1915 (1916?) годзе (у Амэрыцы нарадзілася яшчэ пяцёра дзяцей: Міхаіл, Віктар, Рыгор, Ганна і Адам), шукае дачка сястры Параскевы Найдзен БАРЫСЕВІЧ Параскева Аляксандраўна (Менск 220085, вул. Пляханава 81-37). Апошні ліст ад Аляксандры Найдзен з Амэрыкі быў у 1967 годзе (Paraskeva NIDEN [or Mrs Salvatore J. Messina], 1424 Centre St., Newton Centre 59, Mass.).

*З жыцьця ў Нью-Ёрку*

## 200 НУМАРОЎ «ВЕСТАК І ПАВЕДАМЛЕНЬНЯЎ»

На чале ньёюркскага адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня стаіць здольны арганізатар і працавіты ўдзельнік шмат якіх мерапрыёмстваў, а таксама супрацоўнік рэдакцыі «Беларуса», сп. Аляксандар Міцкевіч. Як старшыня адзьдзелу БАЗА, ён выдае й рассылае двойчы на месяц інфармацыйны бюлетэнь «Весткі й паведамленьні». Гэтае выданьне чытаюць не толькі сябры БАЗА, але й шырэйшая публіка за межамі ЗША.

15 жніўня сёлета выйшаў 200-ты нумар «Вестак і паведамленьняў». Апошнім часам у гэтым бюлетэні падаюцца разам зь весткамі зь мясцовага жыцьця, таксама й паведамленьні заходняга друку пра падзеі на Беларусі.

З нагоды выхаду 200-га нумару «Вестак і паведамленьняў» сябры рэдкалегіі «Беларуса» жадаюць Алесю Міцкевічу добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў вельмі важнай працы, якую ён самаахвярна робіць.



## ЭТНІЧНЫ ФЭСТЫВАЛЬ

Традыцыйны фэстываль этнічных групаў штату Нью-Джэрзы адбудзецца ў Парку Свабоды ў Джэрзы-Сыты ў сыботу-нядзелю 15-16 верасьня. У фэстывалях папярэднімі гадамі заўсёды бралі ўдзел Беларусы. Па інфармацыю зварачацца на тэлефон: (609) 984-7145.

### ПАДЗЯКА ЗА ПРЭСАВЫ МАТАР'ЯЛ

З удзячнасьцяй адзначаем наступных чытачоў, што прыслалі нам выразкі або копіі бягучых прэсавых матар'ялаў зь весткамі пра Беларусь: А. Маркевіч, Г. Дубяга, А. Гаткевіч, М. Раецкі, В. Стэх, У. Ракуць, Я. А., Я. Жучка, Я. Мойсік, Б. Кіт, А. Арэшка, Г. Сагановіч, В. Тумаш старэйшы.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

# НА СУСЬВЕТНЫМ КАНГРЭСЕ ВЫВУЧЭНЬНЯ СССР І ЎСХОДНЯЕ ЭЎРОПЫ

У цэнтральнай Англіі, у горадзе Гарогейце, адбыўся 21-26 ліпеня сёлета 4-ты сусьветны кангрэс вывучэньня СССР і Ўсходяе Эўропы, на якім было прачытана каля 1200 дакладаў, і ў якім узяло ўдзел больш за 1900 асобаў, у тым ліку 122 з Савецкага Саюзу, але не зь Беларусі.

на іншых сэсіях. Гэтак, два даклады былі прысьвечаныя творчасьці Васіля Быкава: брытанскага прафэсара Арнольда Макміліна і амэрыканскага прафэсара Дэмінга Браўна (пра зьмест дакладаў — у наступным нумары). Шмат гаварылася пра Беларусь на сэсіі пад заг. «Беларусь, Расея і Ўкраіна



*Дакладчыкі на аднэй зь беларускіх сэсіяў: (зьлева) Вітаўт Кіпель, Джэймс Дынглі, Томас Бэрд, Зора Кіпель, Вера Рыч.*

На цырымоніі адкрыцьця гэтага зьезду адным з прамоўцаў быў савецкі акадэмік Алег Багамолаў, які, гаворачы ад імя савецкае дэлегацыі, сказаў: «Часы мяняюцца і выявілася, што камунізм дыскрэдытаваў сябе, і заходнія спэцыялісты, якія вывучалі Савецкі Саюз ды іншыя краіны, былі не так ужо й далёкія ад слушнасьці ў сваіх ацэнках нашага жыцьця і нашае мінуўшчыны».

У першы дзень працы кангрэсу адбыліся дзьве беларускія сэсіі на агульную тэму «Галоснасьць і адкрыцьці ў беларускай літаратуры». Старшынявала на сэсіях брытанскі прафэсар др. Лінда Г'юз. Дакладчыкамі былі: праф. Томас Бэрд (пра газэту «Наша Ніва), др.Янка Запруднік («Усевалад Ігнатоўскі як гісторык і дзяржаўны дзеяч»), др. Вітаўт Кіпель («'Белыя плямы' ў беларускай бібліяграфіі»), праф. Джэймс Дынглі (творчасьць Натальлі Арсеньневай), Зора Кіпель, заст. дырэктара Славянскага аддзелу Ньюёркскае Публічнае Бібліятэкі (пра беларускія пераклады XVI-га ст. заходнэўрапейскіх клясычных аповесьцяў «Трыстан» і «Тундаль»), паэтка Вера Рыч (пра паэтычнае наватарства Алеся Гаруна), праф. Аляксандар Баршчэўскі (пра Антона Луцкевіча як літаратурнага крытыка).

Беларуская тэматыка разглядалася і ў XVI-м стагодзьдзі: да новага парадку дня ў вывучэньні ўзаемасувязяў паміж усходнімі Славянамі». Пра Беларусь часта згадвалася ў шматлікіх дакладах на экалягічныя тэмы.

З нагоды кангрэсу 35 заходніх выдавецтваў наладзілі вялікую выстаўку, на якой можна было шмат чаго даведацца пра беларусаведныя выданьні й перавыданьні, а таксама пра доступ да архіўных матар'ялаў. Гэтак, прыкладам, выдавецтва «Інтэр Докюмэнтэйшэн Компаны» прапануе мікракарткі архіву віцебскага мастака Казіміра Малевіча, архіў якога знаходзіцца ў Амстэрдаме ў музэі Стэдэлійк. У сэрыі «Славянская палеаграфія» тая самая кампанія перавыдала на мікракартках 39 тамоў сэрыі «Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией», бальшыня якіх мае дачыненьне да гісторыі Беларусі. Нямецкае выдавецтва «Гебрудэр Борнтрэгер» рэклямавала сэрыю выдатна апрацаваных картаў краёў Усходняе Эўропы, зь якіх адна абыймае й Беларусь.

Менск зрабіў недаравальную памылку, што ня выслаў сваіх навукоўцаў у Гарогейт і нават ня даў магчымасьці прыбыць на кангрэс пісьменьніку Барысу Сачанку, прозьвішча якога фігуравала ў праграме як камэнтарата дакладу праф. Дынглі.

**Я. З.**

# «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАРУСІ

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

Першы наш канцэрт быў вельмі ўдалы, хоць і давалі мы яго амаль без практыкаваньня. Заля была перапоўненая. Але людзі наракалі, што ня было афішаў, ня было рэклямы пра наш прыезд, пра наш выступ. Публіка спатыкала нас зь цяплынёй, з энтузіязмам. Асабліва на заканчэньне, калі ўся заля паднялася, пачалі махаць бел-чырвона-белымі сьцягамі і ўскрыкваць «Жыве Беларусь! — Жыве! Жыве!» І гэтак цягнулася амаль поўгадзіны. Усе мы ўвайшлі як-бы ў экстаз — адчулі супольнасьць.

Вялікае ўражаньне на нас таксама зрабіла дабразычлівасьць людзей і іхнае зацікаўленьне. Яны хочуць інфармацыі пра эміграцыю, пра Амэрыку: як мы жывём, як працуем, як мы патрапілі гэтак добра захаваць беларускую мову й культуру.

Наш абавязак, кажа Алла ўжо на больш сур'ёзнай ноце, трымаць цяпер лучнасьць, памагаць нашым суродзічам на Беларусі ў іхным змаганьні. Памагаць як толькі можна. Мы ўсё жыцьцё змагаліся за чалавечую і нацыянальную годнасьць беларускага народу — каб людзям ляпей жылося, за эканамічны дабрабыт — каб людзі былі незалежнымі, і цяпер гэта ажыцьцяўляецца. І ня можа быць ніякіх кампрамісаў у гэтым змаганьні, як гэта й разумеюць сябры з БНФ. Другім нашым абавязкам — гэта каб увесь сьвет ведаў пра катастрофу Чарнобыля ды ейныя пасьледкі на Беларусі.

Вось гэта ўсё разам, на маю думку, закончыла Алла, і было-б абагульненьнем нашага падарожжа на Беларусь.

*(Працяг будзе)*

**Запісала Зора Кіпель**

# *ВІТАЕ «СЯБРЫНА»*

З-пад берагоў ціхай Віліі, што нясе свае воды з шырокіх прастораў Беларускай зямлі, і бурлівай Вілейкі, што абмывае сваімі хвалямі Замковую гару Гедыміна, шлюць Вам, дарагія суайчыньнікі за акіянам, свае шчырыя прывітаньні Беларусы Літвы, вітаюць Вас напамінам аб старажытнай Вільні, дзе некалі нараджалася, а затым адраджалася культура беларускага і літоўскага народаў.

Дзесяцігодзьдзямі мы былі разьяднаныя з Вамі ня толькі шырынёй акіяну, але і тымі бязьлітаснымі абставінамі, тымі сіламі, якім было зручна, каб мы не адчувалі сябе адной сям'ёй. Пасьля гэтай халоднай зімы зазіхацелі першыя промні веснавога сонейка і зьявіліся пробліскі надзеі…

Дзесяцігодзьдзямі ў Літве ня было ніякага беларускага грамадзкага жыцьця, быццам зусім забыліся тыя багатыя традыцыі, што былі тут у міжваенным часе, а зарадзіліся на самым пачатку нашага, ужо адыходзячага стагодзьдзя. І ўсё-ж сягоньня тут ізноў абуджаецца нейкае беларускае асяродзьдзе, хаця вельмі сьціпла і нясьмела.

Пазалетась у Вільні заснаваўся клюб аматараў беларускай народнай творчасьці «Сябрына», летась узьнікла Таварыства Беларускай Культуры. Энтузіясты гэтых аб'яднаньняў дамагліся таго, што ўжо больш году празь літоўскае радыё перадаюцца адзін раз на два тыдні перадачы на беларускай мове, а сёлета распачаліся таксама і рэгулярныя беларускія тэлевізійныя перадачы зь Вільні.

Былі спробы віленскіх Беларусаў выйсьці і ў пэрыядычны друк, але яны абмяжаваліся пакуль што толькі пасобнымі старонкамі ў розных газэтах рэспублікі, але дзеля сёньняшніх складаных абставінаў і гэтыя беларускамоўныя старонкі часова прыпыніліся.

І ўсё-ж ад пачатку сваёй дзейнасьці «Сябрына» арганізавала нямала цікавых сустрэчаў, выезды на літаратурныя сьвяты ў Беларусь, сьвяткаваньняў розных юбілеяў. Наведвалі «Сябрыну» госьці зь Менску, Гародні, іншых куткоў Беларусі і з па-за яе межаў, прыязджалі паэты, пісьменьнікі, гісторыкі…

Беларускія згуртаваньні Літвы намагаюцца аднавіць зьнявечаную гістарычную памяць пра нашу культурную спадчыну ў Вільні і Віленскім краі. Па ініцыятыве Таварыства Беларускай Культуры ў лістападзе мінулага году адбылося перахаваньне са зьнішчаных евангеліцкіх могілак на могілкі Роса астанкаў знанага беларускага драматурга Францішка Аляхновіча, аднаго з пачынальнікаў беларускага прафэсійнага тэатру. Таксама мяркуецца перахаваць сымбалічна на могілкі Роса астанкі археоляга Івана Луцкевіча, заснавальніка ў Вільні першага беларускага музэю. Ён памёр ад сухотаў у мястэчку Закапанэ ў Польшчы яшчэ ў 1919 годзе, дзе яго магіла не захавалася. Ёсьць меркаваньне, каб на помніку ўшанаваць імя і ягонага брата Антона (Антона Навіны), які загінуў у сталінскіх засьценках. Над праектам гэтага помніка ўжо працуе малады скульптар Алесь Міронгчык.

Сёлета ў Вільні аднавілася традыцыя сьвяткаваць дзень 25-га сакавіка, Сьвята незалежнасьці Беларусі. Урачыстае ўшанаваньне гэтага дня адбылося ў Рэспубліканскім палацы культуры прафсаюзаў.

А зь мінулага году намаганьнямі «Сябрыны», бы тыя першыя веснавыя ластаўкі, зьявіліся ў Вільні і госьці з-за акіяну. Першая такая радасная сустрэча адбылася летась у верасьні з амэрыканскім сьпеваком Данчыкам. Вільня вітала тады і маці сп-ню Юлію Андрусышын, і прыехаўшых на сумесны канцэрт зь Беларусі Лявона Барткевіча і Сяржука Сокалава-Воюша.

Сёлета-ж у канцы чэрвеня завітаў у Вільню амэрыканскі беларускі танцавальны ансамбль пад кіраўніцтвам сп-ні Аллы Орса-Рамана «Васілёк». «Васілёк» выступіў сумесна з вакальна-інструмэнтальным ансамблем зь Менску «Жывіца» пад кіраўніцтвам сп-ні Валянціны Пархоменка. Абедзьве гэтыя сустрэчы былі сапраўдным сьвятам для Беларусаў Літвы, пакінулі незабыўнае ўражаньне і шчырую ўдзячнасьць у іх сэрцах.

У гэтай кароткай нататцы на старонках «Беларуса» нам хочацца выказаць шчырую ўдзячнасьць нашым суайчыньнікам за акіянам за падараваныя нам хвіліны радасьці і пажаданьне, каб нашыя сувязі на культурнай ніве ня спыніліся на гэтым, каб разгарнуліся як мага шырэй.

**Рада клюбу «Сябрына»**

# ПРЫЕХАЛІ НА СУСТРЭЧУ

Калі здаваўся ў друк гэты нумар газэты, у ЗША былі прыбыўшы або выбіраліся ў дарогу на 19-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі наступныя спадары, спадарыні й спадарычны:

Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, і жонка Лёля; Міхась Наумовіч, старшыня «Хаўрусу» ў Францыі; Юрка Сянькоўскі, кансультант Беларускае сэкцыі радыё «Свабода», і жонка Урсуля; Вячаслаў Станкевіч, кіраўнік Беларускай сэкцыі радыё «Свабода», і жонка Джоана; Галіна Руднік, рэжысэр радыё «Свабода»; сп Міхась Баяроўскі і жонка.

Аляксандар Іванюк, дырэктар агульнаадукацыйнага ліцэю зь беларускай мовай навучаньня ў Гайнаўцы; вучні гэтага ліцэю: Кася Башун, Ала Юрчук, Бася Гіншт, Крыся Корх і Дарэк Мусюк; Мікола Бушко, дырэктар гайнаўскага Дому культуры і кіраўнік фэстываляў царкоўнае музыкі ў Гайнаўцы; Бася Кучынская і Мірак Пякарскі, актывісты Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў у Польшчы; Пётр Скепка, кіраўнік ансамблю «Дубіны»; др. Юры Хадыка, заступнік старшыні Сойму БНФ; праф. Анатоль Белы, старшыня клюбу «Спадчына» ў Менску, і дачка Сьвятлана, журналістка; Галіна Прыма, загадчыца першага беларускамоўнага дзіцячага садка ў БССР і кіраўнік аматарскага тэатру «Золак» у Менску; Валянтын Стэх, старшыня Беларускага клюбу «Сябрына» ў Вільні; Міраслава Русак, сакратар клюбу «Сябрына»; Маргарыта Пярова (сваячка Луцкевічаў), прадстаўнік Беларускае суполкі ў Ленінградзе; паэты Сяржук Сокалаў-Воюш і Сяргей Панізьнік; Алесь Палунін, дырэктар навукова-тэхнічнага прадпрыёмства «Дэльта»; Валя Якімовіч, настаўніца, і сын Руслан Малахоўскі, студэнт зь Менску; Алінка Мясьнікова, студэнтка філэлёгіі БДУ; 17 асобаў фальклёрнага ансамблю «Жывіца» і таварыства «Радзіма» ў Менску; рэжысэры Вацлава Вярбоўская і дачка Натальля зь Менску; мянчане Марыя Міцкевіч, В. Самцэвіч, Г. Левашкевіч, В. Аракелян; сваякі клілендцаў зь Беларусі: Анатоль Сацэвіч, Слава Карніловіч, Марыя Варанковіч, Юрка Каляда, Ліда Каляда, А. Валюкевіч.

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## ГАДАВЫ СХОД

**Пэрт, Зах. Аўстралія.** — 28-га ліпеня адбылася ў Беларускім народным доме гадавая зборка сяброў Беларускага Аб'яднаньня ў Заходняй Аўстраліі. Нарады адчыніў старшыня ўступаючай управы сп. Міхась Раецкі малодшы, парадкам зборкі кіраваў сп. А. Мароз малодшы. Былі заслуханыя справаздачы старшыні, скарбніка і кіраўніка Беларускае радыяпраграмы М. З.

Дзеля таго, што радыяперадачы будуць ісьці ў эфір з этнічнай радыястанцыі 6ЕВА-FM, усе, хто будзе весьці іх, мусяць прайсьці курсы радыяапэратараў. Да гэтай пары ад беларускай групы на курсы ходзяць сп-чна Марылька Ёлаб і кіраўнік беларускай праграмы. На курсы, што пачнуцца ў верасьні, трэба знайсьці ахвотнікаў да навучэньня гэтай прафэсіі.

У дыскусіях над справаздачамі выказвалася задаваленьне, што моладзь, якая нарадзілася ў Аўстраліі, перабрала кіраўніцтва мясцовым беларускім жыцьцём, апраўдваючы гэтым надзеі бацькоў.

На становішча старшыні ўправы Аб'яднаньня на навую кадэнцыю быў аднагалосна абраны сп. Міхась Раецкі малодшы; заступнікам — Міхась Ёлаб; саракратары: А. Мароз малодшы і сп-чна Марылька Ёлаб, скарбнік — Алесь Мароз малодшы, прадстаўніком для вонкавых сувязяў — сп. М. Раецкі старэйшы.

Пры нагодзе быў выбраны і Беларускі радыёвы камітэт зь пяцёх асобаў, якія выбяруць спасярод сябе двух дэлегатаў у Этнічны радыякамітэт.

У часе супольнага пачастунку абмяркоўваліся апошнія падзеі ў Беларусі і справа дапамогі ахвярам чарнобыльскае радыяцыі.

**Р. М.**

## СЬВЯТА ПАТРОНАЎ

**Адэляйда.** — Сьвята сьв. апосталаў Пятра й Паўла прыпала сёлета на будзённы дзень, чацьвер 12-га ліпеня. Паколькі настаяцель парафіі а. Міхась Бурнос ад'яжджаў 15-га ліпеня ў Беларусь наведаць сваіх сясьцёр і братоў, парафіяне пастанавілі адсьвяткаваць дзень сьвятых свае парафіі ў чацьвер 12-га. У сувязі з ад'ездам а. Міхася багаслужбы перапыніліся аж да 19-га жніўня.

Пасьля сьв. Літургіі а. Міхась адправіў малебен у беларускай мове. Хоць у нас зіма цяпер, надвор'е паспрыяла. Пасьля багаслужбы адбыўся супольны абед, які складаўся з разнастайных і смачных стравaў, падтрыхтаваных жанчынамі ўдома.

Паманліўшыся, прыхаджане адсьпявалі свайму настаяцелю «Многая лета» ды пажадалі яму памыснае дарогі на Бацькаўшчыну і шчасьлівага звароту.

**У. Акавіты**

*З жыцьця ў Лёндане*

## ГОСЬЦІ ЗДАЛЁК РАСКАЗВАЮЦЬ

У нядзелю 29 ліпеня сп. Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, вітаў у залі Беларускае Бібліятэкі імя Францішка Скарыны далёкіх гасьцей і мясцовых Беларусаў, якія зыйшліся на інфармацыйны сход з нагоды прыезду ў Лёндан загадчыка факультэту Беларускае філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту праф. Аляксандра Баршчэўскага і др. Янкі Запрудніка, рэдактара «Беларуса». Абодвы яны пасьля ўдзелу ў сусьветным кангрэсе спэцыялістаў вывучэньня СССР і Ўсходняе ў Эўропы, што адбыўся ў Гарогейце, заехалі на колькі дзён, каб папрацаваць у Скарынаўцы. З гэтае нагоды і быў наладжаны інфармацыйны сход. Былі на ім і іншыя госьці здалёк: двое навукоўцаў з АН БССР, фізык Віталі Зайка і эканаміст Сьвятлана Бачыла, а таксама часовыя жыхары Лёндану менскі мастак Валеры Мартынчык ды гамяльчанка др. мэдыцыны Ірэна. Былі запрошаныя брытанскія прыяцелі Беларусаў паэтка Вера Рыч і музыколяг Гай Пікарда.

Усіх іх ад імя дырэктара Бібліятэкі а. Аляксандра Надсона, які быў паехаўшы на Беларусь з мэдыкамэнтамі для чарнобыльцаў, прывітаў сп. Міхалюк.

Янка Запруднік расказаў у сваім выступленьні пра беларускую тэматыку на міжнародным кангрэсе ў Гарогейце, пра падзеі на Бацькаўшчыне ды пра беларускае жыцьцё ў Злучаных Штатах.

Праф. Баршчэўскі паінфармаваў пра жыцьцё Беларусаў у Польшчы ды на Беларусі. Усіх слухачоў вельмі цікавіла сьвежая падзея — абвешчаньне Вярхоўным Саветам БССР сувэрэннасьці рэспублікі. На сходзе сп. Міхалюк зачытаў тэкст прывітальнае тэлеграмы, якую ЗБВБ выслала ў Менск Вярхоўнаму Савету. У тэлеграме было сказана:

«Віншуем дэпутатаў Вярхоўнага Савету БССР з абвешчаньнем сувэрэннасьці Беларусі і выказваем спадзяваньне, што ідэя вольнай і дэмакратычнай Беларускай дзяржавы будзе замацаваная і распрацаваная ў канстытуцыі ды іншых законах з выкарыстаньнем гістарычнага дазнаньня Беларускае Народнае Рэспублікі».

Праф. Баршчэўскі, ён-жа Алесь Барскі, сваё выступленьне закончыў чытаньнем сьвежа напісаных вершаў, зазначыўшы, што ягоны сёлетні побыт у Англіі быў шчодры на рыфму.

Пасьля дакладаў, дзякуючы гасьціннасьці сп-тва Міхалюкоў, адбыўся супольны пачастунак.

**Я. З.**

## СЬВ. † ПАМ. БАЛЕСЛАЎ ЛІШЧОНАК

Сёлета 12 ліпеня памёр у Ашаве Балеслаў Лішчонак. Радзіўся ён 10. VIII. 1919 г. ў вёсцы Недаль на Меншчыне. Пасьля вайны, пасьля кароткага побыту ў Англіі, пераехаў у Канаду, жыў у Ашаве, працаваў у Джэнэрал Моторс. Балеслаў Лішчонак быў ведамы і як музыка. Ён меў сваю аркестру «Ашава Мэлёды», апрацоўваў і выдаў, за кошт «Пагоні», кружэлкі беларускіх песьняў і танцаў.

Набожчык быў адным з самых ахвярных людзей, што няспынна працавалі для беларускай справы. Ён належаў да Згуртаваньня Беларусаў Канады, парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ, быў сябрам «Пагоні». Пахаваны ў Ашаве і паніхіду служыў Першаярарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай у сыботу 14 ліпеня.

Вечная памяць Табе, Балеслаў!

**К.**

*З жыцьця ў Бэльгіі*

## ПА «СТАРЫХ СЬЦЕЖКАХ»

Доктар Янка Запруднік, рэдактар «Беларуса» і кіраўнік Беларускае сэкцыі радыяё «Свабода» ў Нью-Ёрку, пабыўшы ў канцы ліпеня на міжнародным кангрэсе ў гор. Гарогейце ў Ангельшчыне, скарыстаў нагоду, каб падарозе зь Лёндану ў Мюнхэн затрымацца на два дні ў Бэльгіі. Ягоная мэта была падвойная: спаткацца зь сяброўкамі і сябрамі, зь якімі вучыўся разам на Лювэнскім унівэрсытэце ад 1950 да 1954 году, а таксама, як ён мне сказаў тэлефанічна, «прайсьціся па старых сьцежках».

Магчымасьць прайсьціся «старымі сьцежкамі» была, праўда, вельмі абмежаная часам, дый «сьцежкі» тыя, хоць і не пазарасталі, але моцна зьмяніліся, некаторыя проста да непазнаньня. Але ўсё-ж былі й такія, што засталіся бязь зьменаў.

Няма нічога прыямнейшага за падарожжы ў маладосьць, у студэнцкія часы... Gaudeamus igitur juvenes dum sumus...

На спатканьне зь Янкам Запруднікам прыехалі ня толькі сябры й сяброўкі студэнцкіх часоў, але й іншыя Беларусы Бэльгіі. Усім было цікава паслухаць пра апошнія падзеі ў беларускім жыцьці, пра якія Янка добра паінфармаваны.

Спатканьне адбылося ў вельмі мілай атмасфэры летняй рэзыдэнцыі сп-тва Клыбікаў. Сп. Лаўрэн Клыбік, таксама выпускнік Лювэнскага ўнівэрсытэту — цяпер аптэкар, мае сваю аптэку, удала займаецца гамэапатыяй. Ён нядаўна, пасьля 46 гадоў, наведаў Беларусь, змог нарэшце пабыць у сваёй роднай вёсцы на Слонімшчыне, дзе жывуць старэнькая маці ды іншыя сваякі. Сябра Клыбнік падзяліўся таксама сваімі ўражаньнямі з падарожжа, дапаўняючы інфармацыю Янкі Запрудніка.

Развітаючыся з дарагім госьцем, Беларусы Бэльгіі шчыра жадалі яму ўсякае памысьнасьці ў працы на беларускай ніве.

Au revoir, cher Ami— **Я. Ж.**

*Рэцэнзія*

## «'РУССКИЙ ГОЛОС' В АМЕРИКЕ»

Нядаўна ў выдавецтве «Голас Радзімы» выйшла кніжка «'Русский Голос' в Америке», якая прысьвечаная гісторыі газэты «Русский Голос». Гэтая газэта пачала выходзіць у Нью-Ёрку ў 1917 годзе і выходзіць да сёньняшняга дня. Ад самага пачатку «Русский Голос» быў газэтай левай, аддаваў шмат увагі паляпшэньню ўмоваў працы і жыцьця работнікаў ды шырака адлюстроўваў жыцьцё тагачасных эмігрантаў з былое Расейскае імпэрыі. Чытачамі газэты былі найперш эмігранты з Расеі і то найбольш, бадай, Беларусы.

У газэце, трэба прызнаць, адводзілася значная ўвага таму, штó газэта называла «белорусский вопрос», ці то нацыянальнаму абуджэньню Беларусаў. Газэта падала, прыкладам, весткі пра Ўсебеларускі кангрэс у Менску ў 1917 годзе, пра разгон кангрэсу бальшавікамі ды палітычнае ажыўленьне ў Краі. Калі ўтварылася БССР, «Русский Голос» часта рабіў агляды жыцьця рэспублікі, пісаў пра беларусізацыю, пра беларускае кіраўніцтва. Вельмі шмат увагі газэта прысьвяціла Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе ды разгрому беларускага палітычнага жыцьця ў Польшчы. Зь ініцыятывы газэты ў Злучаных Штатах былі створаныя камітэты дапамогі «Грамадзе».

У далейшыя дзесяцігодзьдзі «Русский Голос» ці не найбольш з усіх амэрыканскіх левых і правых расейскамоўных публікацыяў пісаў пра Беларусь.

Чытаючы-ж кніжку «'Русский Голос' в Америке» аўтарства Галіны Еўдакімавай, аб беларускіх матар'ялах гэтае газэта, на жаль, гаворыцца ня шмат. Найбольш аўтарка кнігі падкрэсьляе «прагрэсыўнасьць» газэты, ейную скіраванасьць на падтрымваньне савецкага ладу. Дзіўна, чаму аўтарка не адзначыла беларусаведныя мамэнты, важныя для вывучэньня беларускага жыцьця ў Амэрыцы.

Пішучы аб кіраўніцтве газэты, Еўдакімава адзначыла чамусьці вельмі дэтальна ролю якраз небеларускіх супрацоўнікаў, у той час як журналісты-беларусы (Гардзей Бусько, прыкладам) зрабілі надзвычай шмат для гэтае газэты, каб пашырыць яе ў беларускія масы.

Чытаючы кніжку «'Русский Голос' в Америке», ствараецца ўражаньне, што аўтар Галіна Еўдакімава або ня вельмі ўважліва перагледала газэту, або не захацела праўдзіва адлюстраваць мамэнты, цікавыя для беларускага чытача.

**В. З.**

## BYELORUSSIAN (BIELARUSIAN) REVIEW

Англамоўны бюлетэнь Byelorussian (Bielarusian) Review сустрэўся зь вельмі прыхільнай рэакцыяй як з боку чытачоў на Захадзе, гэтак і суродзічаў у Беларусі, дзе шмат хто вывучае ангельскую мову. Рэдакцыя BR дастае шмат цікавых лістоў ад сваіх чытачоў.

Сябром БАЗА рэкамэндуецца пасылаць бюлетэнь BR сваім кангрэсмэнам і сэнатарам, яны будуць удзячныя за гэта.

У сьвежым нумары BR зьмешчаныя гэткія галоўныя артыкулы: "Declaration of Byelorussian Sovereignty," "Struggle for Introduction of Byelorussian into Church Services Intensifies," "Our National Name in Foreign Languages."

*З новых публікацыяў*

а. Леў Гарошка. **ПАД ЗНАКАМ «РУСКАЕ І ПОЛЬСКАЕ ВЕРЫ».** Перадрук з «Божым Шляхам», 1954-1955. Выд. «Кантакт», 1990. 93 бб.

**СУПРАСЬЛЬСКІ ІРМАЛОЙ** (1598-1601). Выбраныя літургічныя напевы (словы і музыка). Рэд. Пíхура. Выд. «Божым Шляхам», Лёндан, 1990. 12 бб.

**ЖЫРОВІЦКІ ІРМАЛОЙ** (1649). Выбраныя літургічныя напевы. Рэд. Г. Пíхура. Выд. «Божым Шляхам», Лёндан 1990. 8 бб.

WEISSRUTHENISCHE Arbeitskreis. **INFORMATIONSHEFTE. DIE BELORUSSISCHE (WEISSRUTHENISCHE) SOWJETREPUBLIK (BSSR). 1989.** Zusammengestellt aufgrund vorliegenden Quellenmaterials aus dem belorussischen Rundfunk und den belorussischen Presseveröffentlichungen. 53 S.

**ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ** № 7(23), ліпень 1990. Беларускі інфарматар Ватыканскага радыё.

**БЕЛАРУСКІЯ НАВІНЫ** № 1, май 1990. Бюлетэнь Беларускага Дэмакратычнага Аб'яднаньня. Беласток. 24 бб. У выданьні зьмешчаныя дакумэнты (праграма, статут, адозвы ды інш.), што адлюстроўваюць дзейнасьць БДА на Беласточчыне і БНФ у БССР. Вартасная публікацыя.

**КАНТАКТ** № 2(4), ліпень 1990. Шляхі беларускай думкі. 28 бб.

**ФОС** № 5-6 '90. Часопіс Брацтва праваслаўнай моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі. Двухмесячнік (дадатак да "Listu Informacyjnego" моладзі Беластоцка-Гданьскай епархіі). 12 бб.

**ЗВАЖАЙ** № 3(59), жнівень 1990. Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Таронта, Канада. 8 бб.

**ГОЛАС ЧАСУ** № 4/7, ліпень-жнівень 1990. Царкоўна-грамадзкі часапіс. Лёндан, Англія. 44 бб.

Фінансавая справаздача «НА ФОНД 'БЕЛАРУСА'» будзе зьмешчаная ў наступным нумары.